№ 48 (885) 24 снежня 2014
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады







## Размялі тавары — глядзіце, каб краіну не размялі

Сяргей Гудзілін

Старонка 3



Сяргей Гудзілін

## Чалавек года Франак Вячорка

Старонка 4

## БЛАКАДА

naviny.by
onliner.by
belapan.by
charter97.org
gazetaby.com
belaruspartisan.org
udf.by

Інтэрнэт не лыкам шыты. Людзі навучыліся чытаць папулярныя «Хартыю» і «Партызан» у абыход блакады.

Старонка 2

# Інтэрнэт не лыкам шыты

**Людзі навучыліся чытаць папулярныя «Хартыю» і «Партызан» у абыход блакады.**

У дзень уводу 30% камісіі на продаж валюты беларускаму інтэрнэту стала нядобра. Нейкі час абрубілі нават Tut.by, затым пачалі адны за адным выключацца незалежныя «Хартыя», Naviny.by, «Салідарнасць»... У суботу быў ліквідаваны папулярны партал Onliner.by.

### Як блакуюць

Аднак, як кажа прымаўка, «хіцер Зміцер, а і Саўка не дурны». У ролі Саўкі ў дадзеным выпадку выступілі заблакаваныя сайты і іх чытачы.

«Анлайнер» у той жа дзень пераадчыніўся на дамене Onliner.ru.

Журналісты «Хартыі» навучыліся часта мяняць DNS сайтаў, у выніку чаго заблакаваныя рэсурсы адчыняліся і ў Беларусі.

А чытачы лёгка асвоілі няхітрыя спосабы адчыняць іншыя забаненыя парталы. Напрыклад, адным клікам мышкі ўключаючы ў браўзэры «Опера» рэжым турба.

Як паказваюць інтэрнэт-лічыльнікі, наведвальнасць заблакаваных сайтаў знізілася мінімальна, прычым з тэндэнцыяй да поўнага аднаўлення ранейшых пазіцый.

### Як тое робіцца

Інтэрнэт-сайт можна зрабіць недасяжным рознымі шляхамі.

Першы, афіцыйны — блакаванне па рашэнні суда ці кантрольных органаў. Напрыклад, замежным сайтам тэрарыстычных арганізацый ці прадаўцам наркотыкаў проста забараняецца доступ з беларускіх адрасоў.

Другі шлях — заваліць сайт «віртуальнымі наведнікамі» (на прафесійнай мове DDoS-атака). Пры вялікім напльве «чытачоў» (ролю якіх могуць выконваць як камп'ютары зламыснікаў, так і чужыя «завірусаваныя» камп'ютары) абсталяванне сайтаў не спраўляецца. Такі шлях незаконны, але «класічны» сярод зламыснікаў. Менавіта такім чынам «невядомыя» атакавалі незалежныя сайты падчас прэзідэнцкіх выбараў.

Трэці шлях паўтарае першы, толькі неафіцыйна. Фармальна. у нацыянальнага аператара «Белтэлекам» узнікаюць тэхнічныя праблемы ці «без каментароў». Сігнал з Беларусі абрываецца роўна на сетцы правайдара, з-за мяжы праблем з доступам няма. Як пісала «Хартыя», іх абрэзалі менавіта такім чынам.

Апошні (і ўпершыню ўжыты) шлях — ліквідацыя даменнага імя. Такое Беларусь можа зрабіць толькі з уласнымі даменамі зоны .by. Якраз гэта здарылася з другім па папулярнасці беларускім сайтам, Onliner.by. Фармальная прычына — шматлікія прэтэнзіі Мінгандля, сярод якіх пазначэнне цэнаў у каталогу не ў беларускіх рублях.

«Анлайнер» пераехаў на адрас у расійскай даменнай зоне Onliner.ru. Але беларускі закон такі, што гандаль можна весці толькі знаходзячыся ў зоне .by. Ну а без каталога тавараў «Анлайнер» згубіць даходы.

### Прарваліся!

Калі сайт заблакаваны (афіцыйна ці неафіцыйна), на яго можна трапіць безліччу шляхоў.

У некаторых прагглядальніках, як то Opera і Яндэкс.Браўзер, існуе функцыя «Turbo». Адну кнопку націскаеш і інфармацыя праходзіць не наўпрост да карыстальніка, а канвертуецца па дарозе ў больш «лёгкі» фармат практычна без стратаў у якасці.

Для прыхільнікаў браўзераў Chrome, Firefox, Internet Explorer, Safari ёсць свае спосабы.

Самы просты — так званыя ананімайзеры альбо Web-proxy: Proxfree.com, Hide.me, Cameleo.ru і яшчэ сотні падобных старонак. Гэта дазволеныя сайты, якія дазваляюць праз сябе (акно ў акне) зайсці на забароненыя.

Ідэальны ж спосаб — дадаткі да браўзераў, якія дастаткова наладзіць адзін раз, каб заўсёды мець доступ да любых сайтаў. Іх можна здабыць, напрыклад, па адрасах Hola.org, Zenmate.com ці Fri-gate.org.

Яшчэ адзін шлях — віртуальныя прыватныя сеткі альбо VPN. Яны гарантуюць не толькі вольны доступ, але і ананімнасць у сецівe. Большасць з іх платныя, але ёсць і бясплатныя. Наладзіць бясплатны VPN можна на сайтах Frootvpn.com , Vpnbook.com альбо Openvpn.net. Для працы з імі спатрэбяцца элементарныя навыкі працы з браўзерам.

Варыянт для экстрэмальнай ананімнасці і «ўсёдасяжнасці» — Tor. Гэтая тэхналогія, падключыць якую можна праз сайт Torproject.org, стварае ланцужок камп'ютараў, праз якія перадаецца шмат разоў зашыфраваны сігнал. Кожны ў ланцужку ведае толькі, куды далей перадаць сігнал. Што перадаецца — не ведае ніхто, акрамя пачатковай крыніцы сігналу і канчатковага карыстальніка.

### Калі сайт «мёртвы»

Вышэй згадвалася гісторыя з Onliner.by, а таксама DDoS-атакі. У такіх выпадках на сайт не патрапіш ніяк. Але можна патрапіць на «філіялы» сайта. Практычна кожнае СМІ зараз прысутнічае ў сацсетках, якія ў Беларусі не блакуюцца (ці блакуюцца неафіцыйна і ў крайніх выпадках). Напрыклад, NN.BY у выпадку чаго можна пачытаць на vk.com/nasa_niva, twitter.com/nasa_niva альбо https://www.facebook.com/pages/Наша-Ніва.

Свабоду слова ў інтэрнэце абмежаваць няпроста.

**Аляксандр Арсёнаў**

**Сайты, якія блакуюцца**

Хартыя-97 (charter97.org)

«Беларускі партызан» (belarusrartisan.org)

«Салідарнасць» (gazetaby.com)

Udf.by

Belapan.by

**Знялі блакаванне з сайтаў**

Tut.by

Naviny.by

**Пазбавілі даменнага імя by.**

Onliner.by (цяпер дасяжны на onliner.ru)

Андрэй Хадановіч

Калядны верш

## Батлейка

Зорка сняжынкай упала дзяўчынцы на вейкі.
Дзед Мароз паслізнуўся на мандарыне.
Сёння, адзін раз на год, прадстаўленне батлейкі,
што адчыніць вам дзверы чароўнай скрыні!

Наша батлейка вялікая, трохпавярховая,
і на кожным паверсе — усё, што трэба.
На сярэднім — зямля, пастушкі, цар Ірад з аховаю.
На высокім — калядная зорка і неба.

На падземным паверсе — грэшнікі й пекла,
замест катлоў і патэльні — метро, у гадзіну пік…
Рэжысэр хвалюецца — публікі панабегла,
дваццаць вякоў на сцэне, а ўсё не прывык.

Напагатове яслі, анёлы, жывёла.
Смерць рэжа торт касою. Рукі ў чырвоным цесце.
Ірад закручвае гайкі. Сюжэт раскручвае колы.
«У Бэтлееме, убогім доме…» Далей па тэксце.

Зорка, як водзіцца ў зорак, капрызнічае, аднак
потым спускаецца з неба, і гэта знак,
што, насуперак Іраду, перамагае дабро.
Нават у пекле амністыя. Магі выходзяць з метро,

а над зямлёю — анёлы! Звычайны люд
бачыць што бачыць і радуецца: «салют!»
Бог нарадзіўся. Магі нясуць прэзенты.
Тут і батлейкі канец. Хто слухаў, апладысменты!

На паклон выклікаюць мядзведзя з казою.
Дзеткі ўплятаюць слодычы. Вяжа вусны хурма.
Гледачы спахапіліся, клічуць і смерць з касою,
а смерці няма.

## Лукашэнка: Я стану прэзідэнтам, нават калі ўвесь свет супраць

**На прэс-канферэнцыі ў Маскве ён заявіў, што ён не той чалавек, якога лёгка адхіліць.**

«Лукашэнка не той чалавек, якога можна адстроіць... адстроіць мяне можа толькі беларускі народ. Нават калі ўвесь свет выступіць сёння супраць Лукашэнкі, ён усё роўна стане прэзідэнтам, калі ён гэтага захоча», — сказаў Лукашэнка на прэс-канферэнцыі ў Маскве пасля пасяджэння Найвышэйшай Еўразійскай эканамічнай рады.




На пасяджэнні ў Маскве Аляксандр Лукашэнка сядзеў за таблічкай «Республика Белоруссия».

Паводле слоў Лукашэнкі, ён абмеркаваў з расійскім прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным «увесь вузел праблем», якія ёсць у адносінах дзвюх краін.

Абмежаванне пастаўак беларускіх тавараў у Расію праходзіла без згоды Пуціна, сказаў кіраўнік Беларусі.

«Гэта ўсё зроблена ў аднабаковым парадку без якіх-небудзь кансультацый, абмінаючы Еўразійскую эканамічную камісію!» — адзначыў кіраўнік Беларусі.

**Сяргей Гезгала**

### Самае чытанае на nn.by за 17—23 снежня

1 Нацбанк увёў 30%-ю камісію за куплю валюты

2 Гэта яна прыдумала падатак на валюту

3 Пяць спосабаў трапіць на заблакаваныя сайты

4 Onliner.by выключаны паводле рашэння ААЦ

5 Сем 14-гадовых дзяўчатак зацяжарылі пасля пяцідзённай экскурсіі ў сталіцу

6 Пуцін — Пяскову пра Сабчак: Навошта ты ёй даў слова? ВІДЭА

7 Стваральнік «Белага легіёну» Сяргей Числаў вярнуўся з фронту ў Данбасе: Расія ва Украіне не мае шанцаў

8 Нацбанк: Самалёты з валютай ужо на падлёце

9 Пяць фактаў пра звольненага кіраўніка Магілёўшчыны Пятра Рудніка

10 Лукашэнка склікаў Раду бяспекі для абмеркавання Плана абароны Беларусі

# Валюта падаражала на 30%

Курс **вырас**, а дэвальвацыі **няма**.

Яшчэ 17 снежня даляр можна было здаць за 11000 рублёў, а купіць — па 11100. Праз тыдзень амерыканскую валюту прымаюць па 13750, а прадаюць па 14500.

Ці адбылася дэвальвацыя — «зніжэнне курса нацыянальных валют у адносінах да цвёрдых валют»? «Ніяк не!» — рапартуе Нацбанк на чале з Надзеяй Ермаковай.

Улады краіны пайшлі на стварэнне множнасці курсаў, абы не выкарыстоўваць слова «дэвальвацыя». Цяпер кожны пакупнік валюты даплачвае 30%-ую камісію.

«Сёння ў насельніцтва ёсць выбар: ці не купляць даляры, ці купіць іх з 30%-й камісіяй. У нас у краіне столькі доляраў няма і не можа быць, каб задаволіць запыты на валюту ў поўнай патрэбе», — папярэджвае прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

Мера нібыта часовая, да 1 лютага 2015 года, але Нацбанк не агучвае стратэгію, як плануе вызначаць курс валют пазней. Усе спадзяванні на рэзкі рост расійскага рубля. Беларуская эканоміка моцна прывязаная да расійскай. Абвалілася там — затрэслася і тут.

Па стане на вечар 23 снежня ў банках можна было знайсці свабодную валюту, але далёка не ў кожным абменніку.



**Гэта яна прыдумала збор за куплю валюты**

Гэта Крысціна Фернандэс дэ Кіршнер, з 2003 года — першая лэдзі Аргенціны, а з 2007 года — прэзідэнт.

У снежні 2013 яе камандай быў уведзены 35% падатак на куплю валюты. Дадзеныя меры выдатна дапамаглі зарабіць хлопцам на чорным рынку валюты.

Абвал песа прадоўжыўся, у тым ліку ў студзені 2014 года была праведзена дэвальвацыя і паніжаны «збор» за куплю валюты да 20%, але на гэты момант чорны рынак працягвае існаваць, розніца паміж афіцыйным і чорным курсам — недзе 70% (пры тым, што валюта абясцэнілася недзе на 50%). Пры гэтым яшчэ з восені 2014 краіне прадказваюць новую дэвальвацыю.

**Паводле: Максім Знак, Facebook**

**Замарожаныя цэны**

19 снежня была прынятая пастанова Савета міністраў аб недапушчэнні росту цэнаў на спажывецкія тавары, уключна з інтэрнэт-крамамі. Пастанова бестэрміновая. Па выніках праверак некалькі крамаў былі паказальна закрытыя, аднак гэта не спыняе астатніх гандляроў. Ніхто не хоча прадаваць тавар сабе ў страту, на рынках курс даляра ўсё адно лічаць па 15—16 тысяч рублёў.

**А што ў Расіі?**

На фоне крызісу ў сваёй краіне беларусы згубілі ўвагу да падзей у суседняй краіне. За мінулы тыдзень курс расійскага рубля патроху ўзмацняўся і цяпер спыніўся на адзнацы 54,5 за даляр. Банкі Расіі, падняўшы стаўкі па крэдытах, стабілізавалі сітуацыю, аднак гэта адгукнецца замаруджваннем эканамічнага росту краіны.

**Дэпазіты — 50%**

Беларускія банкі па патрабаванні Нацбанка стварылі тэрміновыя дэпазіты пад рэкордныя фіксаваныя 50% гадавых. Паклаўшы 10 мільёнаў, праз месяц можна атрымаць дадатковы прыбытак 417 тысяч рублёў. Але колькі гэта будзе ў далярах? Трэба старанна лічыць.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Беларусы кінуліся ў крамы, асаблівым попытам карысталася тэхніка. Пасля «набегу» на пустых паліцах засталіся адзінкавыя тэлевізары.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Новыя курсы выглядаюць абсурдна.

**Навошта патрэбны афіцыйны курс?**

Афіцыйны курс даляра на 24 снежня складае 10 950 рублёў, штодзень ён нязначна прырастае. Нацбанк да апошняга трымаецца за гэтую лічбу. На што яна ўплывае?

Фармальная адсутнасць дэвальвацыі дазваляе не індэксаваць заробкі. У статыстычных даведніках запісана, што сярэдні заробак за кастрычнік склаў 6 377 912 рублёў, гэта $582 па афіцыйным курсе. Але пасля сплаты падаткаў і 30%-й камісіі гэта ўсяго каля $450. Менш толькі ва Украіне і Малдове.

З новага года рэальны заробак яшчэ крыху знізіцца — падаходны падатак вырастае да 13%.

У чым могуць выйграць беларусы? Толькі ў драбніцы. Напрыклад, абавязковае аўтастрахаванне па-ранейшаму залежыць ад афіцыйнага курсу. Тым, хто будуе жыллё і плаціць у растэрміноўку, плацяжы таксама выстаўляюцца паводле афіцыйнага курсу.

## 30%-ая камісія: пытанні і адказы

**1. Які курс адлюстроўваецца на табло ў абменніках?**

Курс куплі рэальны, а курс продажу — без уліку 30%-ай камісіі. Гэта прыводзіць да абсурднай сітуацыі: курс куплі даляра і еўра нібыта вышэйшы за курс продажу.

Аднак касякі застаюцца. Нацбанк парэкамендаваў банкам купляць даляры і еўра на 25% вышэй за афіцыйны курс, а вось расійскія рублі, злотыя, фунты і іншыя валюты па-ранейшаму прымаюць у банк па афіцыйным курсе.

**2. Хто мусіць плаціць камісію?**

Насельніцтва набывае даляры прыблізна па 14 500 рублёў у любым выпадку: калі купляе ў абменніку за наяўныя ці безнаяўныя рублі, калі пераафармляе рублёвы дэпазіт на валютны, калі расплачваецца рублёвай карткай за мяжой ці здымае грошы ў замежных банкаматах, а таксама калі плаціць рублёвай карткай у інтэрнэце на карысць замежнай кампаніі. З валютнай карткай дадатковых збораў пры разліку не будзе.

Банкі і юрыдычныя асобы плацяць 30%-ны збор, калі купляюць любую валюту на біржы.

Выключэнне зробленае толькі для тых, хто набывае валюту для куплі нафты, нафтапрадуктаў і электраэнергіі. Такім чынам, камунальныя тарыфы і цана бензіну вырасці не павінны.

**3. Куды ідзе камісія?**

Планавалася, што 30%-ны збор, які плацяць банкі пры куплі валюты на біржы, пойдзе ў бюджэт. Міхаіл Мясніковіч прапануе раздаць грошы экспарцёрам: «Мы абавязаны кампенсаваць экспарцёрам страты, якія яны нясуць па незалежных ад іх прычынах, і мы гэта зробім. Сродкі для гэтага ёсць. У тым ліку сродкі ад валютнага збору».

Па падліках першага намесніка міністра фінансаў Максіма Ермаловіча ўдасца сабраць каля $450 мільёнаў. Кампаніі-экспарцёры атрымаюць нешта накшталт беспрацэнтнага крэдыту на гэтую суму.

30%-ная камісія, якую плаціць насельніцтва, застанецца ў банках, бо тыя ўжо заплацілі збор на біржы.

**4. Калі камісія будзе адмененая?**

Прадугледжваецца, што 30%-ны збор будзе існаваць да 1 лютага 2015 года. Што будзе пасля? Невядома. Аднак ніколі раней у гісторыі Беларусі курс яшчэ не адкатваўся назад.

**Ягор Марціновіч**

# Расія не вытрымала без беларускага мяса

Памочнік кіраўніка Рассельгаснагляда Аляксей Аляксеенка ў эфіры радыёстанцыі «Гаворыць Масква» паведаміў, што Расія часткова зняла забарону на пастаўкі мяса з Беларусі.

Абмежаванні знятыя з прадукцыі Брэсцкага мясакамбіната і ТАА «Вялес-Міт». Па словах Аляксеенкі, рашэнне было прынята пасля правядзення расійскім ведамствам інспекцыі на прадпрыемствах.

«Мы атрымалі гарантыі Ветэрынарнай службы Беларусі аб тым, што прадукцыя будзе цалкам адпавядаць патрабаванням заканадаўства Расіі і Мытнага саюза па бяспецы, а таксама што яна будзе зроблена з сыравіны, выпрацаванай прадпрыемствамі, якія маюць права экспарту на тэрыторыю РФ», — сказаў Аляксеенка.

18 снежня Рассельгаснагляд зняў забарону на пастаўкі мяснай і малочнай прадукцыі з 12 прадпрыемстваў Беларусі.

Усяго з пачатку кастрычніка Расія забараніла пастаўкі з 26 беларускіх прадпрыемстваў нібыта з-за неадпаведнасці прадукцыі нормам і патрабаванням РФ і Мытнага саюза.

Аднак у інтэрнэце людзі адразу напісалі: такія ж яны неадпаведныя, як грузінскі баржом і ўкраінскія кетчупы.



**Фотафакт**

**Беларускі металургічны завод падрыхтаваў два карпаратыўныя календары: адзін з дзіцячымі малюнкамі «Я хачу быць металургам», другі — з фотаздымкамі супрацоўніц «Ва ўладзе жаночай прыгажосці».**

# Франак Вячорка: **Я ведаю, што ўсё раблю правільна**

Сёлета «Наша Ніва» назвала Чалавекам года Франака Вячорку і іншых **папулярызатараў вышыванкі**.

Беларусы адзеннем падкрэсліваюць уласны нацыянальны гонар. Гэта дэманстратыўны — у прамым і пераносным сэнсе слова — супраціў палітыцы русіфікацыі. І тут стала ясна, што беларусам быць модна! Франак Вячорка быў адным з тых, хто прыклаў найбольш намаганняў для папулярызацыі вышыванак.

**«Наша Ніва»: Франак, а хто для цябе Чалавек года?**

**Франак Вячорка:** Міхаіл Жызнеўскі. Ягоны ўчынак на Майдане натхніў многіх. І, магчыма, без яго не было б і гэтай хвалі ўздыму сярод беларускай моладзі. З Майдану ўсё пачалося.

**«НН»: Як думаеш, незадаволеных тваёй асобай будзе шмат?**

**ФВ:** У нас любая навіна выклікае срач у інтэрнэце. Зрэшты, срач — гэта добра, бо гэта дыскусія, у якой нараджаецца ісціна. І тая дыскусія вакол Бахарэвіча, які мае альтэрнатыўную пазіцыю і лічыць, што вышыванкі — гэта вясковасць, таксама карысная. Канечне, ягоныя аргументы слабыя. Але няхай гэта абмяркоўваецца, людзі задумаюцца.

**«НН»: У цябе ў жыцці шмат зайздроснікаў?**

**ФВ:** Вядома. Часам робіш, а цябе тварам у бруд. Але калі я і пакутаваў, трапляў на суткі, то заўсёды ведаў за што. І пасля арміі я шмат чаму навучыўся.

**«НН»: Шмат ад каго можна пачуць, што Франак Вячорка — вельмі самазакаханы чалавек.**

**ФВ:** Значыць, яны мяне не ведаюць. Я не самазакаханы, я наватняўтульна сябе адчуваю, калі мяне фатаграфуюць. Я проста люблю сваю працу і ведаю, што ўсё раблю правільна. Магчыма, мая бескампрамісная пазіцыя падаецца ўпартасцю. Мнногім гэта не падабаецца. Але цяпер такі час, што беларусы мусяць умець за сябе пастаяць.




**Людзі мінулых гадоў па версіі «НН»**

**2004** — старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна

**2005** — палітык Аляксандр Мілінкевіч

**2006** — чалавек Плошчы

**2007** — маладафронтавец

**2008** — футбольны трэнер Віктар Ганчарэнка

**2009** — Наталка Васілевіч і іншыя дабрачынцы

**2010** — падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы Мікалай Казлоў

**2011** — музыка Сяргей Міхалок

**2012** — людзі, што вярнулі ў Беларусь Статут ВКЛ: Аляксей Бацюкоў, Зміцер Яцкевіч, Андрэй Радкоў

**2013** — беларускамоўныя дзеці

## «Вышыванка — гэта схаваны пратэст»

**«НН»: Тады вернемся да вышыванак, дзякуючы якім ты і стаў Чалавекам года. Адкуль з'явілася ідэя?**

**ФВ:** Гэта было ў паветры, мы з «Арт-сядзібай» проста падхапілі ідэю і ператварылі гэта ў трэнд. Я зрабіў першы наклад вышымаек.

**«НН»: Вышымайкі напачатку вельмі крытыкавалі. Казалі, маўляў, ніякая не вышыванка, а нейкі прынт.**

**ФВ:** Дык і час цяпер іншы. Само слова «вышыванка» даволі новае для Беларусі. Цяпер жа яно асацыюецца з гэтай хваляй беларушчыны. І ўлада, як бы яна ні хацела гэтую хвалю асядлаць — не зможа.

**«НН»: Дык яны асабліва і не спрабуюць.**

**ФВ:** Спрабуюць. Яны займаюцца дробным шкодніцтвам. Калі б яны хацелі гэта падтрымаць, то ператварылі б гэта ўсё ў абавязалаўку. А пакуль гэта жывая ініцыятыва, якая мае вялікую каштоўнасць. Хваля вышыванкі — гэта схаваны пратэст. Улада пакуль не сфармавала аргументы і абгрунтаванне таго, чаму гэта варта забараніць. Беларускі арнамент ёсць на лукашэнкаўскім сцягу, імітацыя вышыванкі ёсць ва ўсіх гэтых дзяржаўных калектывах.

**«НН»: Чый здымак у вышымайцы ты лічаш самым вялікім поспехам?**

**ФВ:** Міс Беларусь 2004 і 2008 года ў часопісе ICON. Грыбалёва. Радзівонаў і Герасіменя выступілі ў вышымайках нават на АНТ. Вышыванак разышлося каля чатырох тысяч.

**«НН»: А як упэўніць таго ж самага Бахарэвіча, што вышыванкі — гэта не сялянская плынь?**

**ФВ:** Бахарэвіч выступае супраць усяго, што створана не ім. Таму заганяцца тут не варта. Наша ж мэта зрабіць так, каб усё гэта вышымайкай не абмяжавалася. Трэба дадаць сюды і іншыя аспекты нашай культуры. Вось чаму Лукашэнка перамагае? Бо ён мае форму, а змест пусты. У нас жа ёсць змест, а форма кульгае.

## «Варта выпінаць сваю беларушчыну»

**«НН»: А ты сам цяпер заўсёды ходзіш у вышыванцы?**

**ФВ:** Імкнуся рабіць гэта заўсёды. Шмат хто пытаецца пра тое, дзе знайсці вышыванкі, і я кірую іх на «Арт-сядзібу» да Паўла Белавуса. Я ўвогуле скажу, што мы рулім. Сваімі ідэямі і ініцыятывамі свядомая моладзь можа шмат чаго змяніць. Не так даўно на адным з мерапрыемстваў да нас падышоў зэк і сказаў: «Калі вы размаўляеце па-беларуску, рабіце гэта гучна, каб вас усе чулі. І іншым тады будзе сорамна». Мне гэта вельмі запомнілася. Хопіць быць сціплымі беларусамі. Варта ўжо пачаць выпінаць сваю беларускасць. Людзі мусяць бачыць.

**«НН»: Франак, а ці праўда, што ты цалкам сышоў з палітыкі?**

**ФВ:** Так. Я займаюся журналісцкай і грамадска-культурнай дзейнасцю.

**«НН»: Раней жа ты быў палітактыўны?**

**ФВ:** У Беларусі палітыкі больш няма. Палітычнае поле знішчана, які палітычныя партыі, якія дэградуюць.

## «У войску знішчаюць псіхалагічна»

**«НН»: Шмат нараканняў атрымаў фільм «Жыве Беларусь». Нібыта з дапамогай яго ты знайшоў магчымасць «распіліць» два мільёны даляраў.**

**ФВ:** Я думаю, фільм дасягнуў сваёй мэты. Ен быў разлічаны на замежных гледачоў і прыцягнуў увагу да Беларусі. Ён атрымаў 8 міжнародных узнагарод. Што тычыцца грошай: я іх у руках не трымаў. Яны выдаваліся польскім урадам для польскай кінастудыі.

**«НН»: Мірон Захарка — гэта ты?**

**ФВ:** Гэты герой — зборны вобраз змяне і маіх аднадумцаў. Такіх людзей, як Наста і Зміцер Дашкевічы, як Андрэй Кім. Вядома, што большая частка ў ім мяне. Шмат хто кажа пра непраўдападобнасць сюжэта. Але ў арміі было яшчэ горш, чым паказвалася ў фільме! «Жыве Беларусь», безумоўна, вельмі ўтрыраваны. Але каб глядач сказаў «ваў», патрэбна згусціць фарбы. Гэта прынцып мастацтва.

**«НН»: Наконт таго, што ў арміі было яшчэ горш, чым у фільме. Наколькі расказваюць палітпрызаўнікі, да іх ніколі фізічная сіла не прымянялася.**

**ФВ:** Супраць мяне таксама. Знішчаюць псіхалагічна. Фізічную сілу прымянялі да маіх знаёмых. І гэта нашмат горш, калі за цябе церпяць іншыя. З цябе робяць чалавека, які вінаваты ў пакутах іншых. Прыязджалі ж з БТ і здымалі пра мяне фільм у войску. Паказвалі, які я не патрыёт.

**«НН»: Як на цябе паўплывала армія, якім ты стаў?**

**ФВ:** Я шмат чаго кепскага забыў. Гэта добрая ўласцівасць памяці. Засталася нават настальгія па тым, як мы там парушалі дысцыпліну, скакалі цераз плот, халтурылі і не мылі падлогі. Але ёсць рэчы, якія я прабачыць не магу, — гэта здрада блізкіх і сяброў. Я пераканаўся ў наступных рэчах. Па-першае, нельга кожнаму верыць і давяраць. Па-другое, калі ты маеш сваю каманду, сваіх людзей, ты мусіш усімі сіламі яе падтрымліваць і развіваць.

## «Імідж донжуана штучны»

**«НН»: Нядаўна можна было прачытаць у тваім Фэйсбуку, што галоўны рэжысёр «Авеля» прапаноўваў табе супрацу. Якім чынам?**

**ФВ:** Сяргей Ждановіч ужо некалькі год набіваецца ў сябры. Задобрываў і запрашаў на ўсе свае прэзентацыі. Мяне запрашалі ў якасці памочніка рэжысёра, потым прасілі дапамагаць з перакладам, а ў выніку ўвогуле прапаноўвалі быць кансультантам разам з Наталляй Радзінай [галоўны рэдактар сайта «Хартыя-97» — **«НН»**]. На мой погляд, вакол гэтага праекту сабраліся вялікія аферысты. Фільм будзе выкарыстаны для прапагандысцкіх мэтаў.

**«НН»: Пасля фільма «Жыве Беларусь» ты пабываў на многіх кінафэстах, у тым ліку ў Канах. Які ён, гэты кінасвет?**

**ФВ:** Ён хутчэй жорсткі, чым гламурны. Усе творцы паміж сабой канкуруюць. Рэжысёры адзін аднаму дапамагаць не хочуць. Калі ў цябе ёсць ідэя, не зрабі памылку і не раскажы пра яе, інакш ёй у любым выпадку скарыстаюцца. Я атрымаў там шмат кантактаў, якія спатрэбяцца нам для адраджэння беларускага кіно ў будучыні.

**«НН»: Пасля таго, як ты выклаў фота з акторкай-мадэлькай, якая знялася ў фільме «Авель», ізноў пачуліся каментары, кшталту таго, што Франак ахмурае чарговую дзяўчыну. Табе падабаецца твой імідж донжуана?**

**ФВ:** Імідж такі стварыўся штучна. У тым ліку лукашэнкаўскімі рэпартажамі, дзе мяне ў армію нібыта забіралі з прытона.

**«НН»: А вяселля пакуль не плануецца?**

**ФВ:** Пакуль не. Шмат яшчэ працы, яна стаіць на першым месцы.

**Гутарылі Зміцер Панкавец і Вольга Гарапучык**

# Асобы года: Жызнеўскі, Марціновіч, Бабарыка

Людзі і падзеі, якія **запомніліся ў 2014** годзе.

**Герой года — Міхаіл Жызнеўскі**

Украіна сёлета была ў цэнтры ўвагі ўсяго свету. Беларусы не засталіся ўбаку ад падзеі ў блізкага народа. 25-гадовы Міхаіл Жызнеўскі загінуў у апошнія дні Майдану ад кулі невядомага снайпера. Ён не дажыў усяго тры дні да 26-га дня нараджэння і некалькі дзён да ўцёкаў Януковіча з краіны. Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка ўзнагародзіў Жызнеўскага пасмяротна ордэнам Героя Нябеснай сотні. А ў Кіеве з'явіўся помнік беларусу.

Гэта было сімвалічна: беларус адным з першых загінуў за свабоду і еўрапейскі выбар Украіны.

Героямі года былі і тыя беларусы, якія адстойвалі справядлівасць ва Украіне. А іх былі сотні. Ніякі іншы з суседніх народаў не даў украінцам такой дапамогі.

**Мецэнат года — Віктар Бабарыка**

Адной з найбольш заўважных з'яваў у культурным жыцці краіны за 2014 год стала грандыёзная выстава «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі», якую ад сакавіка да ліпеня прымаў Мастацкі музей. Гэтага мерапрыемства не магло б быць без дапамогі старшыні праўлення «Белгазпрамбанка» Віктара Бабарыкі. Банк падтрымлівае гісторыка-культурны праект «Арт-Беларусь», мэта якога развіццё творчага мыслення і ініцыятывы дзеячаў культуры. Добры прыклад для іншых багатых і ўплывовых людзей краіны.

«Пакуль у Беларусі будзе ідэя і думка, якая можа аб'яднаць нас, такіх розных, з розным мастацкім густам, палітычнымі прыхільнасцямі, узростам і адносінамі, датуль была, ёсць і будзе наша бел-чырвона-белая сінявокая Беларусь. Жыве Беларусь!» — гэтак Віктар Бабарыка прамовіў на адкрыцці выставы «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі».


Міхаіл Жызнеўскі загінуў на Майдане.


Альгерд у Віцебску пазірае на ўсход.


Віктар Марціновіч напісаў папулярны раман.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Дар'я Домрачава бліскуча правяла Алімпіяду.


Віктар Бабарыка ўкладваў грошы ў беларускую культуру.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Пісьменнік года — Віктар Марціновіч**

Беларуская літаратура займела сёлета «Мову» — заўважны раман Віктара Марціновіча. Кніга адразу знайшла сваіх удзячных чытачоў. Напрыканцы года з'явілася ўжо другое выданне «Мовы», бо першы наклад разышоўся цалкам. А вось некаторых прызнаных пісьменнікаў папулярнасць Марціновіча нервавала.

**Спартсмен года — Дар'я Домрачава**

Наша біятланістка прадэманстравала сябе ва ўсёй красе на Алімпіядзе ў Сочы. Домрачава заваявала аж тры залатыя медалі, што прынесла ёй $450 тысяч призавых. Беларуска добра трапіла ў мазь і няблага страляла на алімпійскай трасе, што гарантавала ёй поспех.

Увогуле, зімовыя гульні былі самымі паспяховымі для Беларусі: залатыя медалі ўзялі фрыстайлісты Ала Цупер і Антон Кушнір, а бронзавую — біятланістка Надзея Скардзіна.

Працяг на старонцы 6.

# Асобы года — 2014

Працяг са старонкі 5.



Гомельскі самародак Генадзь Караткевіч.

### Вундэркінд года — Генадзь Караткевіч

Беларусь — радзіма геніяльных праграмістаў. У чарговы раз гэта даказаў 20-гадовы гамяльчук Генадзь Караткевіч, які перамог на прэстыжным конкурсе Google Code Jam. У гэтых спаборніцтвах удзельнічала 20 тысяч праграмістаў з усяго свету, а Караткевіч аказаўся найлепшым.

### Дысідэнт года — Юрый Рубцоў

Ён не палітык, ён просты шафёр з Гомеля, які не згодны з беларускім палітычным ладам.

Юрый Рубцоў з зайздросным пастаянствам выходзіў на вулічныя акцыі ў майцы «Лукашэнка, сыходзь». Яго раздзявалі дагала, судзілі, штрафавалі, а Рубцоў усё адно не адмаўляўся ад фірмовых маек.

У выніку мужчыну асудзілі на 2,5 года «хіміі», якую ён будзе адбываць у Купліне, дзе да гэтага сядзеў Павел Севярынец. У Беларусі з'явіўся яшчэ адзін палітвязень.



КІРЫЛА ХІЛЬКО

Юрый Рубцоў з Гомеля стаў яшчэ адным палітвязнем.




Светлагорскі мастак Silen за працай у Гродне.

### Помнік года — Альгерд у Віцебску

Русафілаў раз'юшыла, што ў самым паўночным абласным цэнтры Беларусі паўстаў помнік вялікаму князю літоўскаму Альгерду. Таму самаму, што вадзіў свае войскі на Маскву. Шавіністычныя сайты нават пабачылі ў гэтым змену ідэалагічнага вектару. Тым не менш, ніякія дыверсіі не перашкодзілі ўсталяваць Альгерда ў цэнтры Віцебска, а глядзіць ён — так-так! — на ўсход.

### Фанат года — Фіціль

Смелую акцыю яшчэ ў студзені правялі фанаты барысаўскага БАТЭ. Яны сфатаграфаваліся з плакатамі: «Трымайся, Украіна, мы з вамі», «Слава героям». У руках трымалі бел-чырвона-белы сцяг. Хлопцы замазалі твары, але міліцыя і КДБ пачалі па адным вылічваць удзельнікаў акцыі. Мабыць, знайшлі б усіх, калі б шуміху не падняўлі ў СМІ.

У знак салідарнасці з Украінай і барысаўскімі фанатамі аналагічную акцыю правяла мінская інтэлігенцыя.

Ініцыятарам фанацкага перформансу быў 29-гадовы Аляксандр М., які больш вядомы пад мянушкай Фіціль. Цягам года яго яшчэ двойчы саджалі на суткі: спачатку за майкі «Асобны атрад БНР», а пасля падчас чэмпіянату свету па хакеі.

### Мастак года — Silen

Светлагорскі графіціст Слава Silen сёлета стварыў выдатныя вобразы князя Кейстута ў Баранавічах і князя Вітаўта ў Гродне, Боны Сфорцы — у Рагачове. А пачынаў ён у родным горадзе працай «Заставайся сапраўдным».

### Рэінкарнацыя года — Сяргей Міхалок

Гурт «Ляпіс Трубяцкі» спыніў сваё існаванне. На яго абломках з'явіліся два новыя калектывы — Brutto і «Трубяцкі».

Новы праект Сяргея Міхалка заявіў пра сябе на поўную гучнасць. Brutto прапагандуе здаровы лад жыцця і традыцыйныя мужчынскія якасці. Але, як і раней «Ляпісам», Brutto не дазваляюць выступаць на сцэнічных пляцоўках краіны.

### Развітанне года — Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін

Адышлі ў іншы свет выдатныя паэты — Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін. Яны застануцца ў вечнасці, дзякуючы сваім творам. Каму не помніцца: «Трэба дома бываць часцей, трэба дома бываць не госцем», «Лілею млявы плёс люляе» ад Барадуліна ці «Мы здалёк убачылі свабоду і яшчэ не вырваліся з пут», «Пакрысе на расе патухаюць зоркі-сплюшкі» ад Бураўкіна?



Рыгору Барадуліну было 79.

### Трэш года — Канчыта

Еўрабачанне сёлета выйграла каларытная аўстрыйская спявачка Канчыта Вурст. Колькі было незадаволеных! Еўропа ў заняпадзе, там адны вычварэнцы, пісалі каментатары. Беларускае журы не дало ёй ніводнага бала. Пасля жартавалі: як наша журы знойдзе добрага прадстаўніка ад Беларусі, калі не здольныя разглядзець пераможцу.

Перамагла ж Канчыта, бо ў яе была добрая песня, за якую галасавалі ў тым ліку слухачы ў Беларусі і Расіі.

### Фраза года — «Что-то не так»

Нарадзілася яна падчас здымак айчыннага блокбастара «Авель». Але выказаць свае эмоцыі і пачуцці гэтымі словамі можна па шмат якіх пытаннях у сённяшняй Беларусі.

### Прыкаліст года — Ваван

Анекдатычная гісторыя здарылася летам, калі ад імя сына Януковіча кіраўніку Беларусі Аляксандру Лукашэнку патэлефанаваў расійскі пранкер Ваван. Ад'ютант і памочнікі прэзідэнта не пабачылі нічога падазронага ў гэтым тэлефанаванні. На поўным сур'ёзе гаварыў і сам Лукашэнка. Праўда, дзеля справядлівасці скажам, што лішняга нічога не сказаў. Імаверна, што гэты розыгрыш каштаваў пасады памочніцы Лукашэнкі Наталлі Пяткевіч.

### Слова года — крымнаш

На фоне эйфарыі пасля далучэння Крыма да Расіі з'явілася такое слова, яно пішацца разам. Праўда, бліжэй да канца года, калі Расію накрылі эканамічныя складанасці, усё часцей яно стала ўжывацца ў іранічным кантэксце. «Ну і няхай, што рубель абваліўся, затое Крым ваш», — усё часцей пішуць у інтэрнэце.

**Зміцер Панкавец**



Сяргей Міхалок (у цэнтры) перарадзіўся ў Brutto.




Фанаты БАТЭ выказалі салідарнасць з Украінай.



Канчыта Вурст перамагла на «Еўрабачанні».

# 2014: Як гэта было, або Хроніка найбольш значных падзей

### Студзень

У Беларусь прыбывае новапрызначаны мітрапаліт Павел.

Мінскія работнікі хуткай дапамогі збіраюць подпісы за павышэнне заробкаў. Улады абяцаюць узняць зарплату праз некалькі месяцаў — і пратэст гасне.

У Купалаўскім тэатры прэм'ера «Пана Тадэвуша».

Фанаты БАТЭ праводзяць акцыю салідарнасці з Украінай. Заўзятараў ідэнтыфікуюць і прысуджаюць да арыштаў.

### Люты

У Сочы праходзіць зімовая Алімпіяда, якая сканчваецца трыумфам біятланісткі Дар'і Домрачавай — тры залатыя медалі! Апроч яе ў спаборніцтвах перамагаюць фрыстайлісты Ала Цупер і Антон Кушнір, а біятланістка Надзея Скардзіна атрымлівае бронзавы медаль.

Японская карпарацыя «Ракутэн» купляе распрацоўку беларускіх праграмістаў, кампанію «Вайбер», за $900 мільёнаў.

Майдан бярэ ўладу ва Украіне, і Віктар Януковіч уцякае ў Расію. Перамога была здабытая цаной жыцця 106 ахвяраў. Сярод іх — беларус Міхаіл Жызнеўскі.

### Сакавік

У адказ на перамогу Майдану Расія ўводзіць войскі ў Крым, блакуючы ўкраінскія падраздзяленні. 16 сакавіка на паўвостраве праходзіць «рэферэндум», паводле вынікаў якога Расія ўключае Крым у свой склад.

Аляксандр Лукашэнка адмяняе рэспубліканскія Дажынкі. Свята цяпер адзначаецца толькі на абласным і раённым узроўнях.

Мясцовыя выбары праходзяць без ніякага грамадскага ўздыму.

### Красавік

На волю выходзіць палітвязень Мікола Аўтуховіч. Ён правёў за кратамі 5 гадоў і 2 месяцы — за пяць знойдзеных пры вобшуку патронаў.

У Мастацкім музеі адкрываецца грандыёзная выстава «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі», большасць экспанатаў якой паказвалася ўпершыню.

На ўсходзе Украіны пачынаецца баявыя дзеянні «сепаратыстаў», якія з дапамогай Расіі плануюць адарваць Данбас.




Часопіс Time назваў Чалавекам года змагароў з Эболай.

### Май

У Беларусі праходзіць чэмпіянат свету па хакеі. Перамагае Расія.

На волю выходзіць Андрэй Гайдукоў, былы слесар «Нафтана», асуджаны за спробу супрацы з ЦРУ.

На «Еўрабачанні» перамагае аўстрыйская «жанчына з барадой» Канчыта Вурст. У беларуса Юрыя Вашчука (Тэа) — 16-е месца ў фінале.

### Чэрвень

Пад выглядам сына Януковіча Аляксандру Лукашэнку дазваніўся расійскі жартаўнік Ваван. Праз некалькі месяцаў у адстаўку сыходзіць памочніца кіраўніка дзяржавы Наталля Пяткевіч. Магчыма, гэта ўзаемазвязаныя падзеі.

З калоніі вызваляюць праваабаронцу Алеся Бяляцкага. За «няўплату падаткаў» ён правёў за кратамі тысячу дзён.

### Ліпень

Кіраўнік «Белнафтахіма» Ігар Жылін арыштаваны і змешчаны ў ізалятар. Сплаціўшы кампенсацыю, ён выходзіць на свабоду, аднак на сваю пасаду не вяртаецца.

Зборная Германіі становіцца чэмпіёнам свету па футболе. У фінале з Аргенцінай усё вырашае гол Марыа Гётцэ ў дадатковы час.

Еўрасаюз уводзіць санкцыі ў дачыненні Расіі, патрабуючы спыніць агрэсію супраць Украіны.

Сепаратысты збіваюць малайзійскі «Боінг» у небе над Данецкам. Загінула 298 чалавек.

### Жнівень

Расія адказвае на санкцыі — уводзіць эмбарга на пастаўку прадуктаў з Еўропы і ЗША.

Арыштаваныя двое членаў савета рэспублікі: магілёўскі бізнэсмен Віталь Кастагораў і дырэктарка Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі Ганна Шарэйка.

У Афрыцы набірае абароты эпідэмія ліхаманкі Эбола.

У Мінску прадстаўнікі Украіны і «ДНР» дамаўляюцца пра спыненне агню. Пакрысе баі суцішваюцца.

### Верасень

8 верасня святкуецца 500 гадоў перамогі ў бітве пад Воршай. На дзяржаўным узроўні дата застаецца незаўважанай.

Упершыню два беларускія клубы ўдзельнічаюць у еўрапейскай футбольнай восені. БАТЭ ўстанаўлівае антырэкорд Лігі чэмпіёнаў па розніцы забітых і прапушчаных мячоў — 2:24, аднак атрымлівае перамогу над іспанскім «Атлетыкам». Мінскае «Дынама» ў Лізе Еўропы таксама займае апошняе месца ў групе, затое перамагае італьянскую «Фіярэнціну».

У Мінску прайшоў «Мова Cup» — спартыўны фестываль на беларускай мове, арганізаваны айчыннымі спартсменамі.

### Кастрычнік

З'яўляецца новы палітвязень. Гомельскі актывіст Юрый Рубцоў асуджаны на 1,5 года «хіміі» за абразу суддзі.

У Мінску былы ахоўнік спрабуе абрабаваць абменнік і бярэ ў закладнікі касірку. Праз некалькі гадзін снайпер страляе ў яго і трапляе ў галаву. Нападнік паміраe ў бальніцы на наступны дзень.

Матч Беларусь—Украіна ў Барысаве ператвараецца ў дэманстрацыю салідарнасці. Фанаты з абедзвюх краін разам спяваюць пра Пуціна, скандуюць «Жыве Беларусь!» і «Слава Украіне!».

Аляксандр Лукашэнка загадвае ўзняць дазволеную хуткасць на дарогах. На многіх трасах цяпер можна ездзіць 120 км/г, а не 90 км/г.

Закрываюцца моўныя курсы «Мова ці кава».

### Лістапад

У адстаўку адпраўлены старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька. На яго месца прызначаецца былы міністр ЖКГ Андрэй Шорац.

Рэформа Міністэрства аховы здароўя — цяпер купіць лекі без рэцэпта становіцца немагчыма.

У Аляксандра Лукашэнкі з'яўляецца прэс-сакратарка — тэлевядучая БТ Наталля Эйсмант (Кірсанава).

### Снежань

Справа аб шпіянажы. Вайсковы аглядальнік Аляксандр Алесін змешчаны ў ізалятар КДБ, але неўзабаве выпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

На волю выходзіць палітвязень Эдуард Лобаў. Ён быў затрыманы за дзень да Плошчы-2010.

Фінансавы крызіс у Расіі дакатваецца і да Беларусі. Курс продажу даляра вырастае на 30%, у крамах тэхнікі пустыя паліцы — насельніцтва скупляе тавары па старых цэнах.

Ягор Марціновіч

### Яны адышлі ад нас за 2014 год

**Эйсэбіа** — легендарны партугальскі футбаліст
**Арыэль Шарон** — былы прэм'ер-міністр Ізраіля
**Таццяна Жулега** — актывістка руху «За Свабоду», Гомель
**Міхаіл Жызнеўскі** — беларускі абаронца Майдану
**Генадзь Грушавы** — грамадскі дзеяч, заснавальнік фонду «Дзецям Чарнобыля»
**Вера Адамовіч** — удава пісьменніка Алеся Адамовіча
**Збігнеў Рамашэўскі** — польскі сенатар і сябра Беларусі
**Гаўрыла Вашчанка** — народны мастак Беларусі
**Валеры Самусёнак** — артыст, перформер
**Яўген Шыгалаў** — бізнэсмен, былы ўладальнік цэнтра «Ждановічы»
**Леанід Левін** — архітэктар, яўрэйскі актывіст
**Рыгор Барадулін** — народны паэт Беларусі
**Пятро Кухарчык** — рэктар Педуніверсітэта
**Анатоль Кузняцоў** — расійскі акцёр, таварыш Сухаў
**Зінаіда Мажэйка** — этнамузыколаг, доктар мастацтвазнаўства
**Аляксандр Пачынок** — былы расійскі міністр па падатках і зборах
**Феадосія Бураўкіна** — маці Генадзя Бураўкіна
**Навум Цыпіс** — пісьменнік
**Жак Лё Гоф** — славуты французскі гісторык
**Аляксандр Бондар** — былы рэктар Інстытута фізкультуры
**Габрыэль Гарсія Маркес** — нобелеўскі лаўрэат па літаратуры (Калумбія)
**Антон Баркетаў** — актывіст АГП
**Тадэвуш Ружэвіч** — вядомы польскі паэт
**Ціта Віланова** — былы трэнер «Барселоны»
**Генадзь Хацкевіч** — мастак
**Уладзімір Дамашэвіч** — пісьменнік
**Анатоль Кудравец** — пісьменнік
**Давід Сімановіч** — пісьменнік
**Элеанора Язерская** — тэлевядучая, актрыса
**Зміцер Сідаровіч** — бард
**Віктар Ветраў** — былы міністр архітэктуры
**Войцех Ярузэльскі** — апошні кіраўнік камуністычнай Польшчы
**Генадзь Бураўкін** — паэт
**Алег Дышлевіч** — перакладчык
**Сяргей Краўчанка** — заслужаны артыст Беларусі
**Эдуард Шэварнадзэ** — былы прэзідэнт Грузіі
**Альфрэда ды Стэфана** — легендарны гулец «Рэала»
**Валерыя Навадворская** — расійская дысідэнтка
**Надзін Гордзімер** — нобелеўская лаўрэатка па літаратуры
**Ігар Шусцікаў** — экс-футбаліст «Белшыны»
**Яўген Самсонаў** — журналіст, Глыбокае
**Павел Саковіч** — паэт
**Уладзімір Дашук** — рэжысёр
**Валянцін Бялькевіч** — футбаліст
**Юрка Станкевіч** — дзеяч беларускай эміграцыі, Чэхія
**Робін Уільямс** — амерыканскі акцёр
**Анатоль Удавічэнка** — выдавец газеты «Борісовскій курьер»
**Барыс Гюнтэр** — дэпутат ад апазіцыі ў Вярхоўным Савеце
**Дзмітрый Шаўчук** — музыка, журналіст
**Кастусь Шарангovіч** — мастак
**Данатас Баніёніс** — літоўскі акцёр
**Мікалай Адамец** — футбольны брамнік
**Вячаслаў Асіпенка** — пасол Беларусі ў Малдове
**Пятро Марцаў** — рэдактар і выдавец БДГ
**Раман Лукашук** — гандбаліст
**Андрэй Гусін** — украінскі футбаліст
**Георгій Каржанеўскі** — валожынскі краязнаўца, актывіст
**Ларыса Бокун** — трэнер па фехтаванні
**Мая Клімковіч** — карэктар
**Рыгор Кійко** — мастак, палітвязень
**Фёдар Чаранкоў** — расійскі футбаліст
**Іван Лепешаў** — мовазнаўца
**Міхаіл Марыніч** — палітык, былы міністр і палітвязень
**Фёдар Ястраб** — мастак
**Аляксандр Рудскіх** — лёгкаатлетычны трэнер
**Эрнст Цецярэўскі** — фотамастак, Полацк
**Ларыса Касцюкавец** — мастацтвазнаўца, фалькларыстка
**Міхась Белямук** — дзеяч эміграцыі, Клілэнд
**Анатоль Маразевіч** — рэктар Акадэміі кіравання пры прэзідэнце
**Валерый Фралоў** — генерал, палітык
**Віктар Ціханаў** — легендарны хакейны трэнер
**Яўген Сідаровіч** — патрыёт, вязень сталінскага ГУЛАГу
**Уладзімір Угольнік** — гітарыст

# Шрамко: «У самакіраванасці БПЦ зацікаўленае кіраўніцтва Беларусі»



«Такія настроі даўно жывуць у сэрцах людзей

Епархіяльны сход Беларускай праваслаўнай царквы вылучыў прапанову дабівацца самакіраванасці БПЦ. Айчыннае праваслаўе знаходзіцца на парозе новай эпохі. Вынікі сходу мы абмеркавалі са святаром Аляксандрам Шрамко.

**«НН»: Што азначае на справе гэтая самакіраванасць БПЦ?**

**АШ:** Сама БПЦ зможа выбіраць свайго кіраўніка, мітрапаліта, а не Маскоўскі сінод яго будзе прызначаць. І вырашаць частку ўнутраных пытанняў самастойна. Цяпер жа такая сітуацыя, што нават рашэнні, якія прымае Беларускі сінод, ён не мае права публікаваць, пакуль сінод у Маскве іх не зацвердзіць.

Так склалася гістарычна, што ёсць розныя ступені царкоўнай самакіраванасці ўнутры РПЦ. Самы незалежны статус мае Украінская царква, ён нават шырэйшы за аўтаномію. Потым ідуць самакіраваныя цэрквы Эстоніі, Латвіі, Малдовы. Пасля ідзе Беларускі экзархат. А ўжо потым мітрапалітавыя акругі — гэта ў Казахстане і Сярэдняй Азіі. Беларускі экзархат утварыўся 25 гадоў таму, яшчэ за часамі СССР. І за гады беларускай самастойнасці справа аб незалежнасці БПЦ не прасунулася ні на крок.

**«НН»: Святары і епіскапы ўспрынялі ініцыятыву мітрапаліта Паўла з энтузіязмам?**

**АШ:** Як толькі Павел узгадаў гэта, то пачуліся апладысменты. Відаць, такія настроі даўно жывуць у сэрцах людзей.

**«НН»: Масква пагодзіцца на такую самакіраванасць?**

**АШ:** Нават мітрапаліт Павел казаў, што не ведае, якое рашэнне будзе прынятае ў Маскве. Я думаю, што будуць пэўныя складанасці. У патрыярха Кірыла ёсць тэндэнцыя большай цэнтралізацыі.

**«НН»: Вы думаеце, гэтая ініцыятыва ішла персанальна ад мітрапаліта Паўла ці ёсць іншыя лабісты самакіраванасці БПЦ?**

**АШ:** Не толькі Павел у гэтым зацікаўлены, але і кіраўніцтва Беларусі. Павел сказаў, што такое жаданне жыве сярод святароў, міран і ў дзяржаўных структурах. Можа, і сам Павел за самакіраванасць, але гэта далёка не толькі яго ідэя.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



# Пасол Расіі: Я сумняваюся, што Лукашэнка пойдзе на выбары ў 2015 годзе

Аляксандр Сурыкаў заявіў аб гэтым на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

«На дадзены момант кіраўнік Беларусі не выказаў жадання балатавацца. І я нешта сумняюся, што ён пойдзе. Але калі пойдзе, то я б яго асабіста падтрымаў», — заявіў Сурыкаў.

Нагадаем, што прэзідэнцкія выбары пройдуць у Беларусі ў наступным годзе. Іх дакладная дата пакуль невядомая, але адбудуцца яны не пазней за лістапад.

**ЛМ**

# У ГрДУ не падоўжылі кантракт з археолагам Генадзем Семенчуком

«Мяне паставілі перад фактам, што ад 27 студзеня 2015 са мной болей не будзе працягваць кантракт, — кажа дацэнт Генадзь Семянчук. — Гэта артыкул 35 частка 2 Працоўнага кодэкса: «Скасаванне тэрміна працоўнай дамовы».

Пакуль Генадзь Семянчук не хоча агучваць падрабязнасці звальнення. Кажа, што на 26 снежня ён запланаваў прэс-канферэнцыю.

Генадзь Семянчук выкладаў у Гродзенскім універсітэце ад 25 жніўня 1991 года. «Адразу пасля таго, як у Маскве путч праваліўся, я прыйшоў уладкоўвацца на працу. Тагачасны рэктар Аляксандр Бадакоў толькі спытаўся ў мяне, як я стаўлюся да нацыянальнага адраджэння. Нармальна стаўлюся, адказаў я.

«Правільна робіш, мы павінны ісці ў першых шэрагах адраджэнцаў», — сказаў мне на гэта Бадакоў. Дарэчы, пару месяцаў таму ён памёр».

Спадар Семянчук кажа, што толькі за апошні год распрацаваў 4 спецкурсы, якія цяпер невядома хто будзе чытаць. Семянчук стварыў навуковы дапаможнік для студэнтаў



«Археалогія Беларусі» ў 2 тамах. Ён з'яўляецца адным з найбольш аўтарытэтных і шанаваных археолагаў Беларусі.

Літаральна пару дзён таму з Гродзенскага ўніверсітэта звольнілі доктарку гістарычных навук Святлану Куль-Сяльверставу. Яшчэ раней працы ў ВНУ пазбавіліся Андрэй Чарнякевіч, Вячаслаў Швед, Іна Соркіна, Ігар Кузьмініч.

**ЗП**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Горад ценяў

За што я насамрэч удзячны Фэйсбуку, дык за тое, што ў ім жыве і дыхае стары Мінск. Той, якога няма і ўжо ніколі не будзе. І пасляваенны, што нечакана стаўся старым.

Шчыра кажучы, пэўнай нечаканасцю для мяне было і тое, што шмат маладзейшых за мяне, мінчука ад 1944 года, не проста цікавяцца мінскай гісторыяй, а робяць адчайную і таленавітую спробу ажывіць мёртвы горад, ягоныя дамы, вуліцы, паркі, масты... Сяргей Харэўскі, Дзмітрый Маслій, Уладзімір Усеваламскі, Вадзім Зелянкоў, Віталь Кірычэнка... Дадайце «Галоўную вуліцу» Леаніда Маракова, які здолеў ажывіць не толькі дамы, але і амаль усіх, у розныя часы, іх жыхароў.

Што ж тут незвычайнага і нечаканага? Старыя фатаграфіі, паштоўкі заўжды выклікаюць хвалюючы водгук. Мо яшчэ і таму, што ў падсвядомасці хаваецца адчуванне канечнасці ўласнага існавання. Адчуванне таго, што калісьці і ты застанешся толькі на старых фотаздымках з іх унікальнай магчымасцю супрацьстаяць Часу.

Праблема ў тым, ці застанешся ты на іх разам з горадам, дзе жыў, ці пазнаюць у табе — у тваёй паставі, у тваім твары, у тваім позірку, нават у тваім адзенні — твой родны горад.

Горад, у які вяртаюцца цені.

...22 чэрвеня 1965 года, дзень летняга сонцастаяння. Менавіта так — «День летнего солнцестояния» — мы назавем свой рэпартаж. А пакуль Саша ўзлазіць на будаўнічы кран, што ўзвышаецца над будучым «Мінскпраектам», а я ўглядаюся ў рэшткі роспісу, што засталіся на сцяне знесенай сінагогі на пачатку Нямігі...

Крушні сінагогі нас мала цікавяць. Ці ж не бачылі мы горад у крушнях? А сёння ён заліты сонцам. Мы захоплены ягонай сонечнай будучыняй. Што не перашкаджае крытычна ставіцца да сталінскай архітэктуры.

«А бачыш там хлопчыка з глобусам? — Саша паказвае на скульптуры, што паўсталі на франтоне мінскага «Парфенона» — Палаца культуры прафсаюзаў. — Гэта Жора, яго з Жоры ляпілі...»

Я ведаю Жору. Амаль з год таму я працаваў з ім у «Чырвонай змене». Дакладней, у яго. А зараз працую ў «Знамёнцы», у аддзеле інфармацыі і побыту, у Сашы. Саша вучыць мяне працаваць у газеце. Жора не

## «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска»

вучыў. Выцягнуў аднекуль з нетраў вялізнага пісьмовага стала гару зжаўцелых папак і кінуў на абдзёртую паверхню: «Тут лісты чытачоў за дванаццаць гадоў. Трэба адказаць». Ледзь не да столі ўзняўся едкі пыл...

Так, беларускамоўная «Чырвонка» не раўня рускамоўнай «Знамёнцы», добра, калі 30 тысяч чытаюць. А «Знамёнку» — усе тры ста тысяч. І наклады бесперапынна растуць. Аднойчы Жора, на той момант дзяжурны рэдактар, выпусціў нумар на дзвюх мовах. Наклад вынішчылі, а Жору... Не, не пасадзілі. І не звольнілі. Усё скончылася працяглай шматгадовай нудотай...

Саша з Жорам, аднакурснікі па журфаку, сябруюць. З імі сябруе яшчэ адзін Саша са «Знамёнкі», насамрэч Самсон, кіруе аддзелам культуры. Я ў захапленні ад ягонага артыкула «Прорвут ли цветы заборы?», пра ўласніцкія перажыткі... Вось як трэба пісаць!

У Жоры — оперны голас, калі-нікалі ён дэманструе ягоную моц. Разам з кучаравасцю, тварам, што нагадвае конскі, і непадробнай сур'ёзнасцю Жора часцяком становіцца аб'ектам добразычлівых насмешак і розыгрышаў.

...Першы надпіс «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска» Сашы пакінулі на нейкай скале, калі абодва адпачывалі ў Місхоры. Так яно ці не так — сцвярджаць не рызыкну. Але распачалася ці не ўсесаюзная гульня. Хто куды ні ездзіў, хто дзе ні быў, паўсюль — «ад Буга да Курыл» — сустракаў ці сам пакідаў надпіс «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска». І на Далёкім Усходзе, і на блізкім Захадзе, і на Поўначы, пра благаславёны Крым ужо і гаворкі няма... Нехта нават бачыў у маскоўскім метро...

26 красавіка 1966 года здарыўся землятрус у Ташкенце, увесь цэнтр ператварыўся ў суцэльныя крушні. Але тое, што над імі лунаў надпіс «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска», ведаю дакладна. Нават здымак бачыў: Саша прывёз адтуль разам з рэпартажам. Рэпартаж называўся «Розы над грохотом». І Розай звалася дзяўчына, журналістка з Ташкента, якую Саша прывёз для Жоры, каб у рэшце рэшт яго ажаніць.

Спатканне ладзілася па суседстве, бо я жыў у 9-й кватэры, а Саша — у 10-й, такая вось прыхамаць лёсу. Памятаю, як адчынялі Жору дзверы, як ён хаваў сарамлівасць... Назаўтра Роза выправілася назад, у свой разрушаны Ташкент. Твару не памятаю. Памятаю толькі саламяна-агністыя валасы...

Гульня з надпісам скончылася недзе напачатку 70-х, калі Барыс Пастарнак, вядомы цяпер маскоўскі журналіст і кнігавыдавец, служыў у Днепрапятроўску, у ахове завода, дзе выраблялiся ракеты. Кляйнеца, што сам накрэмзаў на нейкім спадарожніку — «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска».

...Аляксандр Станюта, пісьменнік, прафесар, доктар філалогіі, сышоў у жніўні 2011 года, пакінуўшы два шчымлівыя раманы пра Мінск: «Городские сны» і «Сцены из минской жизни».

Самсон Палякоў, Саша, вядомы кінадраматург, аўтар сцэнарыяў мноства беларускіх фільмаў, праграў усё ж «заборы» і супакоіўся на могілках у Ерусаліме.

Пахаваны і Жора. Недзе ў Філадэльфіі. Чамусьці здаецца, што на магільным камені выбіты надпіс — «Тут быў Жора Клябанаў з Мінска».

Так, быў. Бо дзе ён цяпер, ведае толькі Бог.

Адно суцяшае: мо праз нейкія тысячагоддзі археолагі з іншай цывілізацыі альбо іншапланецяне ў космасе натрапяць на той надпіс і даведаюцца, што быў на Зямлі такі горад.

Горад Сонца, якое адкідвала доўгія цені.

*kamerton_41@mail.ru*

# 2015

**Студзень**
**1** — Новы год.
**6** — Тры каралі ў каталікоў; Вадохрышча ва ўніятаў.
**7** — Раство Хрыстова ў праваслаўных.
**19** — Вадохрышча ў праваслаўных.
**26** — 25 гадоў назад прыняты Закон «Аб мовах» — беларуская стала адзінай дзяржаўнай.
**28** — 75 гадоў пісьменніку Леаніду Дайнеку.

**Люты**
**2** — Грамніцы ў каталікоў, уніятаў.
**14** — Дзень святога Валянціна.
**15** — Грамніцы ў праваслаўных.
**16, 23** — Масленіца ў праваслаўных і ўніятаў.
**18** — Папялец у каталікоў.
**19** — 125 гадоў каталіцкаму святару і пісьменніку Канстанціну Стаповічу (Казімір Сваяк).
**21** — Міжнародны дзень роднай мовы.
**26** — 75 гадоў музыку, майстру-рэстаўратару нацыянальных інструментаў Уладзіміру Пузыню.

**Сакавік**
**4** — 125 гадоў каталіцкаму святару і пісьменніку Язэпу Германовічу (Вінцук Адважны).
**5–6** — Пурым у юдэяў.
**8** — Міжнародны жаночы дзень.
**10** — 75 гадоў амерыканскаму акцёру Чаку Нарысу.
**15** — Дзень Канстытуцыі.
**21** — 175 гадоў пісьменніку Францішку Багушэвічу.
**25** — Дзень Волі.
**29** — Вербніца ў каталікоў, уніятаў.
**30** — 75 гадоў мастаку Аляксею Марачкіну.

**Красавік**
**1** — Дзень дурня; 75 гадоў мастаку Уладзіміру Басальгу.
**4-10** — Пэсах у юдэяў.
**5** — Вялікдзень у каталікоў, уніятаў; Вербніца ў праваслаўных.
**12** — Вялікдзень у праваслаўных; Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі.
**18** — 75 гадоў кампазітару, народнаму артысту Беларусі Эдуарду Ханку.
**21** — Радаўніца — вясновы дзень памінання продкаў.
**23** — 75 гадоў пісьменніку Віктару Казько.
**25** — 75 гадоў амерыканскаму акцёру Аль Пачына.
**26** — Дзень Чарнобыльскай трагедыі.

**Май**
**1** — Дзень працы.
**9** — Дзень Перамогі; Дзень Еўропы.
**11** — Дзень святога Кірылы Тураўскага.
**14** — Ушэсце ў каталікоў і ўніятаў.
**27** — 75 гадоў заслужанай артыстцы Беларусі Тамары Раеўскай.
**31** — Тройца ў праваслаўных.

**Чэрвень**
**4** — Божага цела ў каталікоў.
**5** — Дзень святой Еўфрасінні Полацкай.
**18** — пачатак месяца Рамадан у мусульманаў.
**23** — Купалле.
**28** — Сабор беларускіх святых.
**29** — Пятра і Паўла ў каталікоў, уніятаў.

**Ліпень**
**2** — Дзень Маці Божай Будслаўскай, апякункі Беларусі.
**5** — 50 гадоў пісьменніцы Людміле Рублеўскай.
**6** — Сусветны дзень пацалункаў.
**7** — Івана ў праваслаўных.
**12** — Пятра і Паўла ў праваслаўных.
**19** — 100 гадоў дзеячу беларускай дыяспары ў ЗША Антону Шукелойцю.
**26** — 50 гадоў мовазнаўцу Змітру Саўку.
**27** — Дзень абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце ў 1991-м.

**Жнівень**
**6** — Спас ва ўніятаў.
**6** — 175 гадоў пісьменніку Альгерду Абуховічу.
**15** — Успенне Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў каталікоў і ўніятаў.
**19** — Яблычны Спас у праваслаўных.
**20** — 100 год ад выхаду апошняга нумару «Нашай Нівы», забароненай царскай цэнзурай.
**28** — Успенне ў праваслаўных.
**29** — 100 гадоў шведскай і амерыканскай актрысе Інгрыд Бергман.

## Студзень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## Люты

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | |

## Сакавік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## Красавік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## Май

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

## Чэрвень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## Ліпень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## Жнівень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

## Верасень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## Кастрычнік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## Лістапад

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## Снежань

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

**Верасень**
**1** — Сусветны дзень ведаў.
**6** — Дзень беларускага пісьменства.
**8** — Дзень беларускай вайсковай славы.
**14** — Узвіжанне ў каталікоў і ўніятаў.
**14** — 50 гадоў музыку Лявону Вольскаму.
**14-15** — Рош Ха-Шана (Новы год) у юдэяў.
**24** — Курбан-байрам у мусульманаў.
**25** — 250 год з дня нараджэння дзяржаўнага дзеяча ВКЛ, кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага.
**27** — Узвіжанне ў праваслаўных.

**Кастрычнік**
**1** — Пакроў ва ўніятаў.
**2** — 50 гадоў музыку Змітру Сідаровічу.
**4** — Дзень настаўніка.
**9** — 75 гадоў брытанскаму музыку Джону Ленану.
**10** — 75 гадоў пісьменніку Кастусю Тарасаву.
**14** — Пакроў у праваслаўных; Рас-ас-Сана (Новы год) у мусульманаў.
**16** — 75 гадоў скульптару Алесю Шатэрніку.
**19** — 125 год з дня нараджэння Сяргея Палуяна (1890–1910), публіцыста, літаратурнага крытыка нашаніўскай пары.
**23** — 75 гадоў бразільскаму футбалісту Пеле.
**31** — Ірландска-амерыканскае свята Хэлоўін.

**Лістапад**
**1** — Дзень усіх святых у каталікоў.
**2** — Дзяды — восеньскі дзень памінання продкаў.
**3** — 125 гадоў антрапалогу і археолагу Глебу Бонч-Асмалоўскаму.
**16** — Дзень Маці Божай Вастрабрамскай.
**28** — пачатак Піліпаўкі.
**29** — першая нядзеля Адвэнту ў каталікоў.

**Снежань**
**3** — Дзень бульбы.
**10** — Дзень правоў чалавека.
**12** — 100 гадоў амерыканскаму акцёру і спеваку Фрэнку Сінатру.
**19** — 100 гадоў французскай спявачцы Эдзіт Піяф.
**21** — 125 гадоў кампазітару Мікалаю Аладаву.
**25** — Божае Нараджэнне ў каталікоў, уніятаў, пратэстантаў.

**Юбілеі года**
**25** гадоў таму адбылася прэм'ера «Тутэйшых» у Купалаўскім тэатры; створана «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».
**50** гадоў таму выйшла аповесць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць», пасля чаго пачалося цкаванне пісьменніка.
**75** гадоў з часу стварэння Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Рыгора Шырмы (першапачаткова — Беларускі ансамбль песні і танца).
**125** гадоў з адкрыцця Мінскага гарадскога тэатра (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы).
**150** год таму пачалася публікацыя Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі (апублікавана 39 тамоў; праца спынена 100 год таму ў сувязі з ваеннымі падзеямі).
**175** гадоў з часу адкрыцця Горы-Горацкай земляробчай школы (з 1848 Горы-Горацкі земляробчы інстытут, з 1925 — Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія).
**400** год таму выдадзены трактат Міхалона Літвіна «Аб норавах татараў, літоўцаў і маскавіцян».
**450** год ад часу ўтварэння Менскага і Мсціслаўскага ваяводстваў ВКЛ.
**500** гадоў з дня нараджэння Мікалая Радзівіла Чорнага, дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.
**525** гадоў таму нарадзіўся беларускі першадрукар Францыск Скарына.
**600** год царкоўнага сабору ў Навагрудку, абранне на кафедру мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі Рыгора Цамблака.
**950** год першага летапіснага ўпамінання Браслава.
**950** год паходу Усяслава Чарадзея на Пскоў.
**1000** год з дня смерці вялікага князя Кіеўскага Уладзіміра Святаславіча.

# Начальнік міліцыі, і такое…

**Намесніка начальніка крымінальнай міліцыі з Гомеля судзяць у Малілёве.**

Магілёўскі абласны суд разглядае крымінальную справу супраць былога намесніка начальніка крымінальнай міліцыі УУС Гомельскага аблвыканкама. Вячаслаў І. абвінавачваецца ў атрыманні хабару, падбухторванні да хабару і махлярстве. Разам з ім судзяць расіяніна Андрэя К., якога вінавацяць у дачы хабару міліцэйскаму начальніку.

Паводле матэрыялаў следства, расіянін з правам на жыхарства ў Беларусі двойчы звяртаўся да Вячаслава І. па дапамогу. Першы эпізод перадачы грошай службовай асобе за «паслугу» прызнаны махлярствам. Тады расіянін перадаў Вячаславу $2 тысячы за «вырашэнне пытанняў». На судзе Андрэй расказаў, што ў пачатку студзеня 2014 ён адзначаў у Мінску з сябрамі свой дзень нараджэння. Не выспаўся, сеў за руль. А тут як на зло па дарозе спыніў інспектар ДАІ. І панеслася. За язду нападпітку аштрафавалі, пазбавілі правоў на 3 гады. Мо неяк і перажываў бы. Але следам прыйшоў ліст з міграцыйнай службы. «Я думаў, што мне пагражае дэпартацыя, таму звярнуўся да Вячаслава І., каб ён мне паспрыяў. Я ведаў, што ён працуе ў міліцыі. Той абяцаў дапамагчы. Я схадзіў ва ўпраўленне па грамадзянстве і міграцыі, там напісаў заяву, хадайніцтва не дэпартаваць мяне. Ну і ўсё наладзілася. Потым перадаў Вячаславу $2 тысячы, як той і прасіў. Я заўважыў пры перадачы грошай, што ўсё-такі гэта дорага», — расказаў расіянін на судзе.

Андрэй — дырэктар будаўнічай фірмы, у якой «заробак атрымліваюць у канвертах». З міліцэйскім чыноўнікам пазнаёміўся праз агульных знаёмых. «Ну як гэта сказаць культурна... Мы сустракаліся для сумеснага піцця спіртных напояў. У лазні таксама». Але сумесныя паходы ў лазню не стварылі сяброўскіх адносін паміж мужчынамі. Міліцыянт вырашыў «нагрэць» прыяцеля. Паводле абвінавачвання, ён ніяк не вырашаў пытанні з магчымай дэпартацыяй, бо не валодаў такімі паўнамоцтвамі і нікога не прасіў дапамагаць. Але грошы ўзяў. У расіяніна — двое непаўналетніх дзяцей, яны грамадзяне Беларусі, што вызваляе яго ад дэпартацыі. Пра гэта ведаў і начальнік.

Следства палічыла, што службовая асоба ўвяла ў зман даверлівага расіяніна. Такія дзеянні прызналі махлярствам і падбухторваннем да хабару.

Андрэй хоць і палічыў, што за сваё спакойнае жыццё заплаціў «дорага», але па заступніцтва звярнуўся яшчэ адзін раз. Толькі не для сябе. Вясной 2014 брат ягонага кампаньёна трапіў у міждзяржаўны вышук за махлярства ў Маскоўскай вобласці. Андрэй папрасіў у міліцэйскага начальніка вырашыць гэта пытанне. Не за так, зразумела. І справу ўлагодзілі: беглы расіянін прыехаў у Гомель, дзе яго сфатаграфавалі, калегам у Расію паведамілі, што затрымалі ўцекача. Дакументы адправілі ў Хімкі (Маскоўская вобласць), але мужчыну адпусцілі. А на радзіме яго знялі з расійскага ўліку.

За такую паслугу Вячаслаў атрымаў 4 тысячы даляраў і гадзіннік Tissot, які ацанілі ў 9 мільёнаў рублёў.

На судзе былы міліцэйскі начальнік цалкам прызнаў эпізоды па махлярстве і хабары. Вось толькі гадзіннік ён палічыў падарункам — ніякім не хабарам.

Разгляд справы працягваецца.

**Юлія Шымкевіч**

# «Я не Росцік, я — Данік»

**Адшукалі 4-гадовага хлопчыка, якога бацька ўпотайкі вывез у Расію.**

«Наша Ніва» пісала пра гісторыю Кацярыны і Віктара з Баранавічаў (№43). Жанчына з сакавіка не бачыла свайго 4-гадовага сына Расціслава. Муж, з якім не жыла разам, забраў сына і знік. Пакуль хлопчыка шукалі, Кацярына развялася, а суд прызначыў месца пражывання Расціслава з маці. Вось толькі Віктар пра гэта не ведаў, бо на судах яго інтарэсы прадстаўляла маці.

«На тэрыторыі Беларусі пошукі вынікаў не далі. Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў выяўлена, што бацька з сынам знаходзяцца ў Расіі, у адным з гарадоў Маскоўскай вобласці. Аператыўнікамі была атрымана інфармацыя, што ў адну з крамаў гэтага горада перыядычна заходзіць малады чалавек з хлопчыкам, які падобны да таго, якога шукаюць», — паведамілі ў МУС Беларусі.

Беларускія аператыўнікі выехалі ў горад Дзмітроў. Туды ж паехала і Кацярына. Там жанчыне давялося два дні прасядзець у гатэлі, пакуль аператыўнікі ўсё высвятлялі. І калі зразумелі, што гэта менавіта Віктар з Расціславам, усе прыехалі да іх на кватэру.



«Я павіталася з сынам: «Росцік, прывет!» — «Я не Росцік, я — Данік». — «Не, ты Росцік, я цябе так назвала, я — твая мама». Ён мяне не пазнаў. Але сказаў, што не хоча жыць з Віктарам, а са мной паедзе. Дзіця нічога не разумее. Я даведалася ад сына, што ён ні з кім не кантактаваў, заставаўся адзін дома, калі Віктар ездзіў на працу», — расказала Кацярына.

Бацьку хлопчыка не затрымлівалі. Па словах Кацярыны, паколькі ён на судах не быў, то фармальна не ведаў, што Расціслава трэба перадаць на выхаванне ёй. Таму яму гэта давялі да ведама.

«Віктар быў не надта рады мяне бачыць. Пагражаў, што прыедзе і з усімі разбярэцца», — кажа Кацярына. І баіцца, што былы муж вернецца ў Баранавічы і ператворыць іх жыццё ў кашмар.

**Сяргей Макарэвіч**

# Правал мадэрнізацыі

**У Мінску вынеслі прысуд па справе былога гендырэктара «Барысаўдрэва» Уладзіміра Мальцава.**



Менеджара прызналі вінаватым у наўмысных з асабістай зацікаўленасці дзеяннях з выкарыстаннем службовых паўнамоцтваў, якія пацягнулі нанясенне значнай шкоды дзяржаве і грамадскім інтарэсам. За краты ён адправіцца на тры гады ў калонію ўзмоцненага рэжыму.

Канфіскоўваць маёмасць у Мальцава не будуць. Але ён мусіць сплаціць на карысць «Барысаўдрэва» 1,9 мільярда рублёў і 95 мільёнаў дзяржмыта. Таму тую маёмасць, што арыштавалі падчас следства, на 400 мільёнаў рублёў не вернуць. Гэта два аўтамабілі, тэхніка... Па словах жонкі Мальцава, сям'я ўзяла новае дарагое аўто ў крэдыт да мужавага арышту. І яна перастала выплачваць за яго грошы — няма чым.

**Першага віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашку выклікалі ў суд у якасці сведкі, аднак ён не з'явіўся**

Уладзіміра Мальцава арыштавалі ў сакавіку 2014. Абвінавацілі ў правале дзяржпраграмы па мадэрнізацыі прадпрыемства, якое прывяло да цяжкіх наступстваў. Агульную шкоду ацанілі ў 18 мільярдаў рублёў. У прыватнасці, пры выбары пастаўшчыка абсталявання Мальцаў не адхіліў прапанову турэцкай кампаніі, абсталяванне якой не адпавядала неабходным патрабаванням. І усведамляючы страты прадпрыемства, ён не разглядзеў іншых удзельнікаў конкурсу.

Мальцаў віны не прызнаў. Спасылаўся на тое, што ўсе дзеянні былі ўзгоднены з высокімі чыноўнікамі. А мадэрнізацыя на прадпрыемстве пачалася да яго прыходу на пасаду.

Першага віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашку выклікалі ў суд у якасці сведкі, аднак ён не з'явіўся.

Справу супраць гендырэктара завялі пасля таго, як у лістападзе 2013 на «Барысаўдрэў» прыехаў Лукашэнка. Ён раскрытыкаваў працу прадпрыемства. Тады ад пасадаў былі адхіленыя губернатар Міншчыны Барыс Батура, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Тур, кіраўнік «Беллеспаперпрама» Аляксандр Пераяслаўцаў. Лукашэнка даручыў правесці праверку і пасадзіць вінаватых. Усю віну ўскладі на Мальцава.

**Кастусь Матушыч**

## Сціcла

### Патруціліся гарэлкай

Чацвёра беларусаў накіраваліся ў Расію на заробкі. Спыніліся ў Ленінградскай вобласці ў прыватным доме. 16 снежня вырашылі выпіць. Але гарэлка аказалася няякаснай, і мужчыны патруціліся. Трое памерлі на месцы, а наймалодшы, 18-гадовы, сканаў у бальніцы. Праводзіцца праверка.

### Страляў у дзяцей

Дзеці гулялі ў двары, калі 11-гадоваму школьніку нешта трапіла ў твар і пайшла кроў. У бальніцы над брывом хлопчыка выцягнулі металічны шарык. Высветлілася, што з акна дома па дзецях з пнеўматычнага пісталета страляў 17-гадовы хлопец. Заведзена крымінальная справа.

### Хворая

Жанчына-пенсіянер, якая пакутуе на шызафрэнію, засекла сякерай свайго 66-гадовага мужа. Здарэнне адбылося 15 снежня ў в. Трасціно Хоцімскага раёна. 57-гадовая жанчына арыштаваная.

### Выпала з цягніка, страціла нагу

П'яная 22-гадовая берасцейка выпала з вагона цягніка на перагоне Брэст-Жабінка. У выніку дзяўчыне адарвала частку нагі. Акалічнасці здарэння высвятляюцца.

### Машыны ўсмятку

Два чалавекі загінулі ў выніку аварыі ў Магілёве раніцай 22 снежня. 20-гадовы кіроўца «БМВ» не даў рады кіраванню, пашкодзіў турнікетную агароджу і выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з «Маздай». У выніку ДТЗ кіроўца і пасажыр «БМВ» загінулі на месцы. Кіроўца «Мазды» шпіталізаваны.

**КМ**



# Пятро Руднік: З кіраўніка вобласці ў дырэктары завода

22 снежня ў адстаўку адправілі старшыню Магілёўскага аблвыканкама Пятра Рудніка. **Пайшоў на паніжэнне**: ужо на наступны дзень яго прызначылі дырэктарам «Хімвалакна».

### Навучаўся за мяжой

Пятро Руднік нарадзіўся ў Брагінскім раёне на Гомельшчыне, але звязаў свой лёс з Магілёвам. Варта адзначыць найбольш інтрыгоўны момант з біяграфіі чыноўніка — вучоба ў ГДР. У 1985 годзе Пятро Руднік скончыў Дрэздэнскі тэхнічны ўніверсітэт.

Туды студэнта перавялі з мінскага РТІ. Трапіць у той час на навучанне за мяжу было зусім няпроста. Чалавек павінен быў быць абсалютна добранадзейным і адданым, а таксама мець добрыя адзнакі і выдатна ведаць нямецкую мову.

З беларускіх топ-чыноўнікаў адукацыю за мяжой яшчэ атрымліваў міністр замежных справаў Уладзімір Макей, які навучаўся ў Дыпламатычнай акадэміі Аўстрыі. А памочнік прэзідэнта па эканоміцы Кірыл Руды быў стыпендыятам праграмы Фулбрайта і стажыраваўся ва Універсітэце Чыкага (ЗША).




### Ганаровы ліфцёр

Вялікі перыяд жыцця Рудніка быў прысвечаны працы на «Магілёўліфтмашы». У 1995-м ён стаў намеснікам дырэктара завода, праз пяць гадоў перайшоў на пасаду камерцыйнага дырэктара, а ў 2003-м узначаліў прадпрыемства.

«У той час у Расіі былі прынятыя новыя правілы эксплуатацыі ліфтаў. Ніводзін ліфт, які выпускаўся на постсавецкай прасторы, не падыходзіў пад правілы для замежнай прадукцыі. Вось тады кіраўніцтвам «Магілёўліфтмаша» і было прынятае рашэнне стварыць новы мадэльны шэраг. Па ініцыятыве Рудніка гэтую задумку пачалі ажыццяўляць», — распавядаецца ў кнізе, прысвечанай юбілею прадпрыемства.

Пад кіраўніцтвам Рудніка колькасць выробленых ліфтаў вырасла з 3100 да 8800 за год.

### Аднойчы выказаўся ў падтрымку беларускай мовы

У канцы 2009 года кіраўнік Магілёўскай вобласці Пятро Руднік зацвердзіў комплексны план па папулярызацыі беларускай мовы ў вобласці. Кажуць, што гэта адбылося пасля таго, як «губернатар» наведаў дні Магілёўшчыны ў Маскве.

Найперш заявілі пра беларусізацыю абласных раёнак. І сапраўды яны адмовіліся ад дапатопных савецкіх назваў на карысць прыгожых беларускіх, але мовы болей у іх не стала.

Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што пры Рудніку ў вобласці была зарэгістраваная адна незалежная грамадска-палітычная газета — «Узгорак» (Горкі). У іншых абласцях у гэты час мясцовыя чыноўнікі і такога сабе не дазвалялі.

Другім пунктам ішло стварэнне беларускіх класаў у школах, падтрымка беларускамоўнай адукацыі. Але гэта ўвогуле скончылася поўным пшыкам! На 370-тысячны горад ёсць усяго адна дзяўчынка Ялінка Салаўёва, якая навучаецца па-беларуску.

### Самая стратная вобласць

На тэрыторыі Магілёўшчыны няма ніводнага прамысловага гіганта, таму яна робіць найменшы ўнёсак у агульны ВУП.

Напрыклад, за студзень-лістапад 2014-га доля Магілёўшчыны склала ўсяго 7,2%, і, у адрозненне ад іншых рэгіёнаў, яе ВУП яшчэ і падае.

Летась гэта была адзіная вобласць, уласныя даходы якой меншыя за датацыі з рэспубліканскага бюджэту.

**Радзькова перасадзілі ў крэсла Пяткевіч**

Аляксандр Радзькоў прызначаны памочнікам Лукашэнкі. Раней ён займаў пасаду першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Радзькоў — не самы папулярны чалавек ва ўладзе, таму яго без страху паставілі кіраваць «Белай Руссю». Як міністр адукацыі, Радзькоў запомніцца ўзмацненнем русіфікацыі, закрыццём беларускіх школ, пераводам гісторыі Беларусі на рускую мову. А ў Адміністрацыі ён адзначыўся цыркулярам для чыноўнікаў у рэгіёнах, дзе заклікаў «не дапусціць прымусовую беларусізацыю». На пасадзе памочніка Радзькоў будзе мець пастаянны доступ да кіраўніка краіны.

Аляксандр Лукашэнка трымае вобласць на асаблівым кантролі, бо гэта ягоная радзіма.

### Прыхільнік зброі

«Сёння ў нашым грамадстве чалавек з табельнай зброяй успрымаецца не як фактар небяспекі, а як чалавек, які надзелены ўладай і які заклікаsuccessful абараняць грамадства ад усякай заразы, якая можа ўзнікнуць. Гэта сёння надае грамадству стабільнасць», — гэта ці не самая вядомая і рэзанансная фраза былога кіраўніка Магілёўскай вобласці.

**Зміцер Панкавец, Ягор Марціновіч**

## NATO назвала тры ўмовы далучэння Украіны да альянсу

«НАТА паважае рашэнне Вярхоўнай Рады Украіны адмяніць пазаблокавы статус дзяржавы і пацвярджае, што Украіна можа быць членам арганізацыі.

Так УНІАН пракаментавалі ў штаб-кватэры НАТА адпаведнае рашэнне ўкраінскага парламента адмяніць пазаблокавы статус краіны.

«Мы паважаем рашэнне ўкраінскага парламента. Украіна з'яўляецца незалежнай і суверэннай дзяржавай, і толькі яна прымае рашэнне аб уласнай замежнай палітыцы. Як было вырашана на саміце ў Бухарэсце ў 2008 годзе, нашы дзверы адчыненыя, і Украіна стане сябрам НАТА, калі яна гэтага папросіць, выканае стандарты і будзе выконваць неабходныя прынцыпы», — сказалі ў НАТА.

У Паўночнаатлантычным альянсе зазначылі, што ў выпадку, калі Украіна вырашыць падаць заяўку на сяброўства, НАТА «будзе ацэньваць яе гатоўнасць далучыцца да Альянсу такім жа чынам, як мы робім з любым кандыдатам».

## Беларускі рымэйк «Карнавальнай ночы»

Яго стварылі на тэлеканале «Белсат» як адмысловы выпуск гумарыстычнай перадачы «Эксперт». А пакажуць, як можна здагадацца, у навагоднюю ноч — блізка поўначы з 31 снежня на 1 студзеня. Глядзець можна і ў online-трансляцыі на сайце тэлеканала belsat.eu.

«Калі вы будзеце сустракаць Новы год каля тэлевізара, а паппса вам абрыдла, сваткуйце разам з «Белсатам», — кажа рэжысёр «капусніка» па матывах аднаго з самых вядомых савецкіх фільмаў «Карнавальная ноч» Юры Хашчавацкі.

«Мы смяёмся, гэта сатыра. «Карнавальнай ночы» ўжо 60 гадоў, а камедыя гэтак жа актуальная і глядзельная, як і ў СССР», — кажа ён. Мяркуйце самі: на пачатку фільма Дзеда Марозаарыштоўваюць і саджаюць у турму на Акрэсціна. Пасля гэтага робіцца спроба ўзяцця незалежнага тэлебачання «Белсат» пад кантроль Гаранта, які і выглядам, і гаворкаю падобны да самі ведаеце каго.




Падчас інспекцыі Гарант-Агурцоў вучыць тэлевізійшчыкаў працаваць. Як і ў «Карнавальнай ночы», пачуецe багата музыкі і песень: можна будзе ацаніць вакальныя здольнасці «белсатаўцаў» — ад вядучых да дырэктаркі Агнешкі Рамашэўскай-Гузы.

Традыцыйныя вядоўцы «Эксперта» Даша і Крумкач будуць замінаць пераладаванню тэлеканала на густ Гаранта.

У выніку мультперсанаж, падобны да аднаго сенатара-паэта, прачытае байку «Мядзведзь у Крыме», а замест песенькі «Ах, Таня, Таня, Танечка» прагучыць «Ліда, Лідачка». Памятаеце: «Работніца питания приставлена к борщам...».

Кіраўнічка ж галоўнага банка краіны заспявае раманс.

І хаця фінансы ў Беларусі нешта зноў заспявалі рамансы, Юры Хашчавацкі заклікае ўзняць сабе падчас навагодняга застолля настрой разам з «Белсатам»: «Так, рэальнасць сумнаватая, панує цёмная сіла, але разам на яе, нікчэмную, і смешна глядзець. Як і ў нашым святочным шоу, усё будзе добра!»

**Андрэй Цяплоў**

## Памёр Джо Кокер

На **71-м годзе** сышоў з жыцця славуты спявак Джо Кокер. Апошнія некалькі год ён змагаўся з ракам лёгкіх.



Джон Роберт Кокер нарадзіўся 20 мая 1944 года ў прыгарадзе Шэфілда, Англія. Ён вырас на песнях Лоні Донегана і Рэя Чарльза , свой першы гурт сабраў у 16 гадоў. Праз год кінуў школу, каб працаваць памочнікам газаўшчыка і паралельна займацца музыкай.

У 1966 годзе з Крысам Стэйнтанам Кокер заснаваў гурт Grease Band, які граў рытм-энд-блюз ды соўл. Іх кавер на бітлоўскую «With a Little Help from My Friends» заняў у Вялікабрытаніі першае месца ў чартах у 1968 годзе. У наступным годзе гурт зладзіў першы тур па ЗША. Бэнд гучна заявіў пра сябе на славутым фестывалі Woodstock.

У 70-х Кокер запісваў ужо сольныя альбомы, якія мелі вялікі поспех. Стыль вагаўся ад блюзроку да рэгі. У спевака пачаліся праблемы з наркотыкамі і алкаголем. Некалі магутны голас стаў жудасна хрыплым барытонам. Але той жудасна хрыплы барытон стаў візітоўкай Кокера, а з алкаголем ён разабраўся ў 80-х.

Кокер не сыходзіў са сцэны да канца жыцця і запісаў 22 альбомы, якія прынеслі свету нямала хітоў: «You Are So Beautiful», «You Can Leave Your Hat On», «Unchain My Heart», «Feelin' Alright»... Уладальнік «Грэмі» і «Оскара»за лепшую песню да фільма за «Up Where We Belong» дуэтам з Джэніфер Уорнс. Уключаны ў спіс «100 найвялікшых спевакоў у гісторыі» часопіса Rolling Stone. Кавалер ордэна Брытанскай Імперыі.

Джо Кокер двойчы выступаў у Мінску: у 2010-м і 2013-м.

**Аляксандр Арсёнаў**




Матч Беларусь — Украіна ў Барысаве ператварыўся ў дэманстрацыю салідарнасці. Фанаты абедзвюх краін спявалі пра Пуціна, скандавалі «Жыве Беларусь!», «Слава Украіне!».



У студзені пабраліся шлюбам палітык Павел Севярынец і Вольга Шылак. У пары была доўгая і рамантычная гісторыя адносін. Вольга два гады чакала Паўла з «хіміі».



У маі ў Мінску ўпершыню прайшоў чэмпіянат свету па хакеі. Заўзятары ў гэтыя дні зладзілі ў горадзе сапраўдны карнавал. Праўда, свята было не для ўсіх: дзясяткі палітактывістаў былі арыштаваныя і асуджаныя на суткі. Мінскі чэмпіянат запомніцца высокай наведвальнасцю і вялікай колькасцю выпітага алкаголю.



Два мільярды рублёў выдаткавалі з бюджэту на прапагандысцкі фільм «Авель». Падчас здымак Плошчы масоўцы прапаноўвалі крычаць «Что-то не так!».



У студзені ў Беларусь прыбыў новы праваслаўны мітрапаліт. Павел (Георгій) Панамароў быў епіскапам у Разані і ніякага дачынення да нашай краіны не меў.



Навабудам года для дзяржавы стаў музей Вялікай Айчыннай вайны. Музей здзівіў сваёй мадэрновасцю, але сапраўднай гісторыі там нямнога.



У красавіку на волю пасля пяцігадовага турэмнага тэрміну выйшаў ваўкавыскі прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч. У зняволенні яго так і не зламалі — прашэнне аб памілаванні ён не напісаў.



Уладальніцай тытула «Міс Беларусь — 2014» стала Вікторыя Міганові̇ч са Смаргоні (у цэнтры).

# Брэд сумашэдшага пра Беларусь на Рэн-ТВ

На расейскім канале паказалі выпуск перадачы «Ваенная тайна» пра нашу краіну.




А дакладней — пра паўзучую «аранжавую рэвалюцыю» ў Мінску.

Увогуле, сюжэт зроблены ў духу «класічнага НТВ» з трывожнай музыкай і злавесным закадравым голасам.

Асноўная тэма — антырасійскі настрой беларусаў і «шматгадовая падрыхтоўка» да новага Майдану з дапамогай Захаду.

Унутры краіны падтрымліваецца гэта, мяркуюць аўтары, апазіцыяй і тэлеканалам «Белсат». Прычым апазіцыя на 80% фінансуецца Захадам, а на 20% — самой уладай, каб на выбарах была хоць якая-небудзь канкурэнцыя. Пунктам збору беларускай апазіцыі называецца Варшава, якая, па словах аўтараў відэа, разам з Вашынгтонам з'яўляецца асноўнай крыніцай фінансавання кіеўскага Майдану і цяпер робіць усе, каб паўтарыць поспех у Беларусі.

Прыводзяцца антырасійскія цытаты Зянона Пазняка і Алеся Міхалевіча, і — голас за кадрам дрыжыць! — паказваецца відэа з футбольнага матча паміж Беларуссю і Украінай, калі і хатнія, і гасцявыя трыбуны скандуюць «Героям слава!».

У перадачы ўзгадваюць нават фестываль «Басовішча», прычым кажуць, што не могуць даць у эфір ніводнага фрагменту таго, што гучыць на сцэне: «настолькі гэта абразліва» для Расіі. Карацей, так смешна, што нават ужо не смешна.

Напрыклад, сцвярджаецца, што ў Беларусі ёсць падзел на захад і усход, аналагічны з украінскім. А «эксперты», сярод якіх рэй вядзе Суздальцаў, паведамляюць, што беларусам усё роўна да каго далучацца, абы было выгадна.

Частка, прысвечаная Лукашэнку, складаецца з узаемавыключальных параграфаў. То беларускі кіраўнік абвінавачваецца ў тым, што «на працягу ўсіх 20 гадоў пастаянна патрабуе ад Расіі разнастайных саступак, але пры гэтым ён так і не прызнаў незалежнасці Паўднёвай Асеціі і Абхазіі». То ён называецца самым верным расейскім саюзнікам. Таксама Лукашэнку ўзгадалі яго выказванні пра «галубых» і нават зласлава прайшліся па тым факце, што ён паўсюль возіць з сабой малодшага сына.

У фінале, канечне, гучыць мараль: «Небяспечна не тое, што ЗША ўжо падрыхтавалі некалькі мільярдаў для новай рэвалюцыі, а тое, што падтрымаць беспарадкі гатовыя многія простыя беларусы. Згодна з апытаннямі, каля паловы беларусаў мараць аб саюзе з Еўропай, то бок аб тым, чаго хоча для сябе Украіна».

Насамрэч, пасля прагляду гэтага «шэдэўра», складваецца ўражанне, што аўтары яшчэ не вырашылі, як ставіцца да Беларусі ў цэлым. Аднак перадача цудоўна ўпісваецца ў папулярную сёння ў Расіі канцэпцыю «паўсюль ворагі» — маўляў, беларусы, хоць і жывуць на нашых крэдыты, аднак, бач ты, не вельмі нас і любяць! Да інфармацыйнага цкавання Беларусі расейскія СМІ не проста гатовыя, а добра падрыхтаваныя. Пытанне толькі ў загадзе.

**Уладзіслаў Швядовіч**

# Вытворцы дзіцячага адзення «Marusya» не плацяць работніцам

У рэдакцыю «Нашай Нівы» працягваюць ісці скаргі ад супрацоўнікаў беларускіх прадпрыемстваў. На гэты раз да нас звярнулася жанчына, якая і праз два месяцы пасля звальнення не можа атрымаць грошы, якія зарабіла. Не дапамагла нават скарга ў суд.

У канцы лета наша чытачка ўладкавалася на «Марусю» — вядомае мінскае прадпрыемства па вытворчасці дзіцячага адзення. Заробак абяцалі прымальны.

Аднак на справе ўсё аказалася не так добра. Па-першае, на працы нярэдка прыходзілася заставацца дапазна. А па-другое, высветлілася, што за гэтыя перапрацоўкі плацяць абяцанкамі. Затрымка заробку — звычайная справа для прадпрыемства.

«За тры месяцы маёй працы я атрымала толькі 1,3 мільёна рублёў. То бок частку зарплаты за першы месяц працы. І ўсё, — кажа жанчына. — Прычым для «Марусі» гэта не дзіўна. Людзей прывучылі да такой сістэмы, многія ўвосень яшчэ не атрымалі ўсе грошы за май. Пры гэтым супрацоўнікі пачыналі здзіўляцца, калі нехта выказваў незадаволенасць такой сітуацыяй — казалі, а як гэта табе будуць плаціць, калі ты абураешся? Маўляў, не трэба псаваць адносіны з начальствам, дык можа хоць нешта заплацяць. Кіраўніцтва «Марусі» у сваю чаргу адказвала проста — грошай няма».

Прайшоў месяц, потым другі. Грошай не давалі. Стала зразумела, што праца ў такіх умовах не мае сэнсу. І праз амаль тры месяцы жанчына звольнілася. Але ў пазначаныя заканадаўствам тры дні пасля звальнення яе не разлічылі.

«Папрасілі трошкі пачакаць. Пачакала. Прайшоў тыдзень, другі... Плаціць ніхто не збіраўся».

Тады былая супрацоўніца вырашыла ісці ў суд. Напісала заяву, дачакалася яе разгляду.

«Але самі судовыя работнікі сказалі: калі хочаце, каб вам хутчэй выплацілі, то лепш падпісаць з прадпрыемствам міравое пагадненне. Бо калі патрабаваць кампенсацыю за ўсе дні чакання, то грошай будзе больш, але чакаць прыйдзецца невядома колькі, — распавядае жанчына. — Таму тое пагадненне я падпісала. Згодна з ім, на працягу двух тыдняў са мной павінны былі разлічыцца».

Але «Маруся» ізноў праігнаравала ўсе тэрміны. Праз два тыдні жанчына ізноў пайшла ў суд: бо прадпрыемства не выплаціла ні капейчыны. Цяпер чакае, чым гэта ўсё скончыцца, але ўпэўненасці ў тым, што да святаў ёй заплацяць яе ж грошы, няма.

Да таго ж, як высветлілася, кампанія «Маруся» складаецца з некалькіх розных юрыдычных асобаў. У адносінах да адной з іх — СТАА «Маруся» — ужо ўвогуле распачата працэдура банкруцтва.

«Калі праз суд нічога не атрымліваецца, няхай людзі ідуць у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Лепш за ўсё, калі ёсць яшчэ пацярпелыя, аб'ядноўвацца, намаганні і паспрабаваць ініцыяваць пытанне аб працэдуры банкруцтва праз эканамічны суд і пракуратуру. Тады замест існуючага кіраўніцтва будзе прызначана антыкрызіснае, якое будзе вырашаць пытанні па запазычанасцях», — паведаміў Ігар Раманёнак, антыкрызісны кіраўнік СТАА «Маруся», якога прызначыў суд.

Датэлефанавацца да кіраўніцтва, на жаль, не ўдалося. Часцей за ўсё да тэлефона ўвогуле ніхто не падыходзіў. А нешматлікія ўдалыя спробы канчаліся на сакратарцы, якая абяцала злучыць з дырэктарам. Аднак вынікам былі ізноў жа доўгія гудкі.

«Калі я тэлефаную, яны таксама не падыходзяць. Для іх я такі ж вораг, як і вы і людзі, якім яны не плацяць», — сказаў Раманёнак.

Дададзім, што ў 2011 годзе кіраўнік «Марусі» Марына Падабед заняла пятае месца ў рэйтынгу самых паспяховых бізнэсвумэн Беларусі. А на сённяшні дзень, паводле нашай інфармацыі, Марына і яе муж Віктар Падабед могуць быць прыцягнутыя да адказнасці па прычыне запазычанасці па займах, якая складае каля мільярда рублёў.

Цікава, што слоган прадпрыемства — «Для тых, хто будзе лепшымі за нас». Мяркуючы па ўсім, быць лепшым за такое кіраўніцтва не вельмі і складана.

**УШ**

**Ведаеце пра аналагічныя сітуацыі? Пішыце на nn@nn.by**

## Дырэктара крамы звольнілі за некалькі неасцярожных словаў

У праграме «Контуры» на канале АНТ вядучы Аляксандр Аверкаў пагутарыў з міністрам гандлю Валянцінам Чаканавым.

«Падчас гэтага пакупніцкага калапсу недальнабачныя адміністратары ці ахоўнікі казалі людзям палітычныя лозунгі, маўляў што вы тут мітынгуеце, у іншым месцы трэба мітынгаваць», — падзяліўся вядучы.

Аверкаў удакладніў, што гэта непацверджаная інфармацыя.

Аднак Валянцін Чаканаў адразу ж запэўніў: «Гэты дырэктар больш не працуе, ён звольнены з працы. Грубае стаўленне да пакупніка недапушчальнае».

**ЯМ**

## Дзень віншаванкі раптоўна адменены

Калядны кірмаш беларускамоўных тавараў сарвалі.

«Дзень віншаванкі, які быў запланаваны на 18 гадзінаў 22 снежня у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, пераносіцца на іншы дзень. Змены адбыліся па незалежных ад нас абставінах. Калі будзе прызначаны дакладны час правядзення мерапрыемства, мы дадаткова паведамім», — дзеляцца арганізатары з інтэрнэт-крамы Prastora.by.

Дзень віншаванкі меў прайсці пад дэвізам: «Віншуем па-беларуску!»

**СГ**

**Акселерацыя**

## Сем 14-гадовых дзяўчатак зацяжарылі пасля пяцідзённай экскурсіі ў сталіцу

У Босніі сем дзяўчатак ва ўзросце ад 13 да 14 гадоў зацяжарылі падчас экскурсіі ў Сараева. Раз'юшаныя бацькі патрабуюць ад школы і настаўніка, які вучняў суправаджаў, тлумачэнняў, як гэта магло адбыцца, піша Daily Mail.

Вучні школы з Баня-Лукі прабылі ў сталіцы краіны, Сараеве, пяць дзён. Іх прывезлі наведаць музеі і тэатры. Але ў вольны час частка дзяўчатак — вялікая частка — пазнаёмілася з маладымі людзьмі.

**СЦ**

**АФІША**




**ХАКЕЙ**

### Мінск супраць Рыгі

**Працягваецца чэмпіянат Кантынентальнай хакейнай лігі.** 27 снежня мінчукі будуць прымаць рыжскае «Дынама». Пачатак а 17. 29 снежня — падольскі «Віцязь». Пачатак — а 19. Абедзве гульні на «Мінск-Арэне».

**КАНЦЭРТЫ**

### Dzieciuki

**9 студзеня ў клубе «Піраты» (пр. Партызанскі, 6а)** гурт Dzieciuki дае першы канцэрт у статусе «Героеў года — 2014». Білеты — 100—130 тысяч.

**КІНО**

### Феі. Легенда пра Пачвару

**Жанр:** мультфільм, прыгоды
**Рэжысёр:** Стыў Лотэр
**У ролях:** *Джэніфер Гудвін, Разарыа Доўсан, Рэйвен, Мэй Уітман, Люсі Лью, Томас Ленан, Меган Хілці*
76 хв., ЗША

Анімацыйная казка раскажа гісторыю пра фею Фаўну, якая жыве разам з іншымі феямі на чароўным востраве сярод акіяна. Фаўна найбольш цікавіцца дзіўнымі і небяспечнымі жывёламі, таму аднойчы, сустрэўшы невядомую істоту велічэзных памераў, яна імкнецца найперш пасябраваць з ёй. Аднак атрад фей выведкі на чале з Нікс не настолькі ўпэўненыя ў гэтым страшным зверы, яны маюць намер захапіць Пачвару, перш чым ён знішчыць іх дамы. Фаўна, каб выратаваць свайго новага сябра, імкнецца даказаць усім, што ён — добры звер і не збіраецца шкодзіць іншым.

Гэты мультфільм — шосты ў дыснееўскай серыі поўнаметражных мультфільмаў пра фею Дзінь-Дзінь (гераіня кніг «Пітэр Пэн і Вэндзі» Джэймса Бары) і яе народ. Хоць тут яе персанаж зусім не галоўны — яна з'яўляецца толькі сяброўкай Фаўны. Добрая дыснееўская казка разлічаная на малодшую аўдыторыю. Простая анімацыя гэроя хай не бянтэжыць дарослых: поўсць звера намаляваная надзвычай якасна, як і іншыя візуальныя эфекты.

**Настасся Уласава**

# Найлепшыя кнігі 2014

Найлепшай кнігай, на думку экспертаў «НН», стаў **раман «Мова» Віктара Марціновіча**.

Беларусь растварылася ў Саюзнай дзяржаве Расіі і Кітая, нашу тэрыторыю засялілі кітайцы, пісьмовая беларуская мова стала наркотыкам... Віктар Марціновіч напісаў раман-фантазію, які стаў бестсэлерам.

Першы наклад «Мовы» раскупілі за два месяцы. Адразу выпусцілі другое выданне. За Марціновіча галасуюць рублём.

Раман «Мова» — не літаратура для інтэлектуалаў. Наркотыкі, сэкс, зброя, выбухі... Усё ў межах сцэнароў да сучасных баевікоў. Толькі з беларускім каларытам. І кіно атрымалася б цудоўнае.

Часта гавораць пра тое, што ў Беларусі па-беларуску не чытаюць. Адны гэта звязваюць з тым, што мовай карыстаюцца зусім мала людзей. Іншыя кажуць, што няма добрай літаратуры, і патрабуюць чытво для мас. Вось кніга Марціновіча такой і атрымалася — масавай.

«Мову» назвалі 7 экспертаў. Дарэчы, летась яго «Сфагнум» трапіў у дзясятку найлепшых кніг па версіі «НН».

У Людмілы Рублеўскай сёлета выйшлі другая і трэцяя кнігі трылогіі аб Пранцішу Вырвічу — «Авантуры студыёзуса Вырвіча» і «Авантуры драгуна Пранціша Вырвіча». Некаторыя эксперты адзначалі адразу абедзве кнігі. Хтосьці толькі заключную. Мы не сталі выносіць кожную ў асобную пазіцыю.

Сярод іншых аўтараў, якіх часцей узгадвалі, — Віктар Казько, Васіль Быкаў, Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін. Апошнія два пісьменнікі сёлета адышлі ад нас. Кнігу «Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна», якая летась стала Кнігай года, сёлета перавыдалі. І яна трапіла ў лік самых прадаваных у «Акадэмкнізе».

З года ў год у экспертаў высокія пазіцыі займае класіка, перавыданні кніг без купюр, выданне спадчыны. І значна менш — маладая літаратура. Дэбютныя кнігі фактычна адсутнічаюць: назвалі толькі паэтычныя зборнікі Антона Рудака і Таццяны Нядбай. Але гэта высокая ацэнка іх.

Тройчы ўзгадваўся пераклад на беларускую мову кнігі Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд». Кніга пазначана 2013 годам, але рэальна да чытача яна трапіла толькі сёлета. Тое ж і з кнігай Паўла Севярынца «Беларуская глыбіня». 5 экспертаў назвалі пераклад «Прыгодаў Шэрлака Холмса» Конан Дойла. Праца, якую робяць Ганна Янкута і часопіс перакладной літаратуры «Прайдзісвет», — узорная і неабходная.

Сёлета эксперты назвалі 84 выданні з амаль трох дзясяткаў выдавецтваў (пераважная большасць — прыватныя). Лідарам па колькасці згаданых кніг сёлета стала дзяржаўнае выдавецтва «Беларуская навука». Сярод недзяржаўных — «Кнігазбор». Разнастайнасць кніжак, названых экспертамі, дае арыенціры для чытачоў.

Выніковы рэйтынг падаецца паводле падліку балаў па дзесяцібальнай шкале. За кожнае першае месца ў спісе налічваецца 10 балаў, за другое — 9 і г.д. У выпадках кнігарняў — па выніках продажаў.

**Падрыхтаваў Сяргей Макарэвіч**

**Дзясятка найлепшых кніг 2014 года выглядае так:**

1. Віктар Марціновіч. Мова. — Мінск: Кнігазбор. — 48 балаў.
2. Васіль Быкаў. Ліквідацыя. Без цэнзуры. — Мінск: Медыял. — 33.
3. Генадзь Бураўкін. Нагаварыцца з зоркамі. — Мінск: Кнігазбор. — 28.
4. Віктар Казько. Час збіраць косці. — Мінск: Кнігазбор. — 24.
5. Васіль Быкаў. Мёртвым не баліць. — Мінск: Медыял. — 23.
6. Святлана Алексіевіч. Час сэканд-хэнд: канец чырвонага чалавека / Пераклад з рускай Ціхана Чарнякевіча, Валерыя Стралко. — Мінск: Логвінаў. — 22.
7. Барадулін Рыгор. У неба пехатою. — Мінск: Медыял. — 19.

8—9. Артур Конан Дойл. Прыгоды Шэрлака Холмса / Пераклад з англійскай Ганны Янкута, Кацярыны Маціеўскай і інш. — Мінск: Кнігазбор;
Рыгор Барадулін. Сны сасны. — Мінск: Галіяфы. — па 18.

10. Людміла Рублеўская. Авантуры студыёзуса Вырвіча. / Авантуры драгуна Пранціша Вырвіча. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда»;
Аляксандр Надсан. Выбранае / Укл. Ірыны Багдановіч. — Мінск: Кнігазбор. — па 17.

**Найлепшыя кнігі папярэдніх гадоў:**

2013 — Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна. Уклала Наталля Давыдзенка.
2012 — Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя.
2011 — Адам Бабарэка. Збор твораў у 2 тамах.
2010 — Уладзімір Караткевіч. Ладдзя роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне.
2009 — Алег Латышонак. Нацыянальнасць — Беларус.
2008 — Галасы з-за небакраю: анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах XX ст. Укладаў Міхась Скобла.
2007 — Павел Севярынец. Лісты з лесу.
2006 — Юры Туронак. Мадэрная гісторыя Беларусі.
2005 — Ларыса Геніюш. Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны (1945 — 1983).
2004 — Часлаў Пяткевіч. Рэчыцкае Палессе.
2003 — Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь.

**Андрэй Хадановіч, паэт, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра:**

1. Вацлаў Гавэл. Жыццё ў праўдзе / Пераклад з чэшскай Сяргея Сматрычэнкі, Юліі Сматрычэнка. — Вільня: Логвінаў.
2. Артур Конан Дойл. Прыгоды Шэрлака Холмса.
3. Генадзь Бураўкін. Нагаварыцца з зоркамі.
4. Антон Рудак. Верхні горад. — Мінск: Кнігазбор.
5. Павел Гюле. Вайзэр Давідзік. / Пераклад з польскай Марыны Шода. — Вільня: Логвінаў.
6. Альгерд Бахарэвіч. Дзеці Аліндаркі. — Мінск: Галіяфы.
7. Антон Францішак Брыль. Ян Ялмужна: казка. — Мінск: Кнігазбор.
8. Людміла Рублеўская. Авантуры Студыёзуса Вырвіча / Авантуры драгуна Пранціша Вырвіча.
9. Сяргей Дубавец. Сіні карабель у блакітным моры плыве. — Мінск: Каўчэг.
10. Таццяна Нядбай. Сірэны спяваюць джаз. — Варшава: Полацкія лабірынты.

**Міхась Казлоўскі, краязнавец, рэдактар альманаха «Куфэрак Віленшчыны»:**

1. Людміла Рублеўская. Авантуры драгуна Пранціша Вырвіча.
2. Андрэй Федарэнка. Ціша. — Мінск: Мастацкая літаратура.
3. Масей Сяднёў. Выбраныя творы / Укл. Лідзіі Савік, Кастуся Цвіркі. — Мінск: Кнігазбор.
4. Аляксандр Надсан. Выбранае.
5. Валянцін Таўлай. Выбраныя творы. — Мінск: Беларуская навука.
6. Мікола Лупсякоў. Выбраныя творы. — Мінск: Беларуская навука.
7. Барыс Крэпак. Вяртанне імёнаў: нарысы пра мастакоў. У 2 кн. Кн. 2 — Мінск: Мастацкая літаратура.
8. Мікалай Махнач. Доўгая дарога да свабоды / Укл. Міхася Чарняўскага. — Мінск: Тэхналогія.
9. Артур Конан Дойл. Прыгоды Шэрлака Холмса.
10. Сцяпан Некрашэвіч, Мікола Байкоў. Руска-беларускі слоўнік. — Смаленск: Інбелкульт.

**Людміла Рублеўская, пісьменніца, літаглядальнік газеты «СБ. Беларусь Сегодня»:**

1. Васіль Быкаў. Ліквідацыя. Без цэнзуры.
2. Рыгор Барадулін. Сны сасны. — Мінск: Галіяфы.
3. Віктар Шніп. Тутэйшая туга. — Мінск: Чатыры чвэрці.
4. Андрэй Федарэнка. Ціша.
5. Юры Станкевіч. Брамнік заўжды самотны. — Мінск: Галіяфы.
6. Віктар Марціновіч. Мова.
7. Франц Сіўко. Эдэм. — Мінск: Мастацкая літаратура.
8. Раман Свечнікаў. Рома едзе. — Вільня: Логвінаў.
9. Дзяніс Марціновіч. Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча. — Мінск: Чатыры чвэрці.
10. Антон Рудак. Верхні горад.

**Лявон Баршчэўскі, перакладчык:**

1. Тураўскае Евангелле. Факсімільнае выданне. — Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі.
2. Рыгор Барадулін. Сны сасны.
3. Генадзь Бураўкін. Нагаварыцца з зоркамі.
4. Ніл Гілевіч. Збор твораў у 23 тамах. — Мінск.
5. Віктар Казько. Час збіраць косці.
6. Таццяна Барысік. Жанчына і леапард. — Мінск: Кнігазбор.
7. Віктар Марціновіч. Мова.
8. Алесь Бяляцкі. Іртутнае срэбра жыцця. Пралог. Нататкі праваабаронцы.
9. Сяргей Дубавец. Сіні карабель у блакітным моры плыве.
10. Алесь Краўцэвіч. Краіна пагранічча. — Смаленск: Інбелкульт.

**Аляксандр Фядута, даследчык літаратуры:**

1. Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 4 тамах 6 кнігах. — Мінск: Беларуская навука.
2. Святлана Алексіевіч. Час сэканд-хэнд: канец чырвонага чалавека / Пераклад з рускай Ціхана Чарнякевіча, Валерыя Стралко. — Мінск: Логвінаў.
3. Васіль Стома. Маё мястэчка. — Мінск: Лімарыус.
4. Віктар Марціновіч. Мова.
5. Я адзавуся! Кніга пра Каліноўскага і Касінераў Свабоды / Укл. Сяргей Панізьнік. — Мінск: Лімарыус.
6. Тэрэса Голуб. Летапіс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова / Выданне другое, папраўленае і дапоўненае. — Мінск: Беларуская навука.
7. Людміла Рублеўская. Трылогія аб Пранцішку Вырвічу.
8. Мікалай Маліноўскі. Кніга ўспамінаў / Пераклад з польскай Яніны Кісялёвай. — Мінск: Лімарыус.
9. Максім Багдановіч. Творы / Укл. Юрася Пацюпа. — Мінск: Мастацкая літаратура.
10. Артур Конан Дойл. Прыгоды Шэрлака Холмса.

**Міхась Скобла, паэт, даследчык літаратуры:**

1. Віктар Казько. Час збіраць косці.
2. Аляксандр Лукашук. Вяртанне нацыяналіста. — Мінск: Галіяфы.
3. Сяргей Абламейка. Настальгія. — Мінск: Галіяфы.
4. Павел Севярынец. Беларуская глыбіня. — Вільня: Логвінаў.
5. Гародня X—XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам. Пшэмыслаў Баравік, Юрый Гардзееў і інш. — Гародня: Гарадзенская бібліятэка.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

6. Васіль Быкаў. Мёртвым не баліць. — Мінск: Медыял.
7. Барадулін Рыгор. У неба пехатою.
8. Ніл Гілевіч. Эпіграмы.
9. Арсень Ліс. Выбранае. — Мінск: Беларуская навука.
10. Анатоль Трафімчык. 1939 год і Беларусь: невядомая вайна. — Мінск: Янушкевіч.

**Алег Дзярновіч, гісторык:**

1. Кніжная спадчына Францыска Скарыны: Кніга Быцця; Кніга Выхад; Кніга Лявіт; Кніга Лічбы; Кніга Другі Закон. Факсімільнае выданне / Адк. рэд. Алесь Суша. — Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі.
2. Кніжная спадчына Беларусі: з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі / Склад. Алесь Суша. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя.
3. Віктар Казько. Час збіраць косці.
4. Аляксей Шаланда. Таямнічы свет беларускіх гербаў. Шляхецкая геральдыка Вялікага Княства Літоўскага. — Мінск: Янушкевіч.
5. Друцк: Друцк и Друцкая волость (княжество) в IX—XII вв., летопись древних слоев, князья Друцкие и их владения в XIII—XVIII вв., ремесло, промыслы, торговля (по данным археологии, нумизматики, письменных источников), памятники архитектуры и объекты туризма / Вольга Ляўко і інш. — Мінск: Беларуская навука.
6. Надзея Высоцкая. Радзивиллы. Несвиж. Замок. — Мінск: Беларусь.
7. Трафімчык Анатоль. 1939 год і Беларусь: забытая вайна.
8. Бахарэвіч Альгерд. Ніякай літасці Альгерду Б. — Мінск: Галіяфы.
9. Алесь Аркуш. Мясцовы час. — Полацкае ляда.
10. Беларусь в годы Первой мировой войны (1914—1918): сборник документов / Скл. Вадзім Урублеўскі і інш. — Мінск: Беларусь.

**Валерый Пазднякоў, гісторык:**

1. Надсан Аляксандр. Выбранае.
2. Алена Шацько. Колокола и колокольные звоны православных храмов западных регионов Беларуси: история и современность. — Беласток: Orthdruk.
3. Віктар Ляхор. Военная символика белорусов. Знамена и мундиры. — Мінск: Харвест.
4. Людміла Хмяльніцкая. Сигизмунд Юрковский — фотограф из Витебска. — Мінск: Чатыры чвэрці.
5. Беларуская даўніна. Выпуск 1 / Пад рэд. Ю.Мікульскага. — Мінск.
6. Дучыц Людміла, Клімковіч Ірына. Язычніцтва старажытных беларусаў. — Мінск: Харвест.
7. Unus pro omnibus. Валовічы ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага XV—XVIII стст. — Мінск: Медысонт.
8. Андрэй Мяцельскі. Забытая Альба. Очерк истории загородной резиденции Радзивиллов под Несвижем. — Мінск: Беларуская навука.
9. Гісторыя Навагрудка — з глыбінь вякоў да нашых дзён / М. П. Касцюк і інш — Мінск: Белстан.
10. Юры Гардзееў. Цывільна-вайсковыя парадкавыя камісіі ў Вялікім Княстве Літоўскім у часы Чатырохгадовага сойма (1789—1792). — Смаленск: Інбелкульт.

**Паўліна Вітушчанка, кнігарня «Логвінаў», Мінск:**

1. Віктар Марціновіч. Мова.
2. Раман Свечнікаў. Рома едзе.
3. Святлана Алексіевіч. Час сэканд-хэнд: канец чырвонага чалавека.
4. Рыгор Барадулін. У неба пехатою.
5. Павел Севярынец. Беларуская глыбіня.
6. Тувэ Янсан. Небяспечнае лета / Пераклад са шведскай Алесі Башарымавай. — Мінск: Зміцер Колас.
7. Вольга Гапеева. Сумны суп. — Мінск: Галіяфы.
8. Сяргей Дубавец. Сіні карабель у блакітным моры плыве.
9. Адам Глобус. Апавяданні розных гадоў. — Вільня: Логвінаў.
10. Вацлаў Гавэл. Жыццё ў праўдзе.

**Алесь Квіткевіч, інтэрнэт-кнігарня Prastora.by:**

1. Арлоў Уладзімір. Ад Полацка пачаўся свет. — Мінск: Рыфтур.
2. Віктар Марціновіч. Мова.
3. Ёнас Люшар. Вясна барбараў / Пераклад з нямецкай Ірыны Герасімовіч. — Мінск: Паперус.
4. Васіль Быкаў. Ліквідацыя. Без цэнзуры.
5. Артур Конан Дойл. Прыгоды Шэрлака Холмса.
6. Генадзь Бураўкін. Нагаварыцца з зоркамі.
7. Сара Лундберг. Віта Белая Крэска / Пераклад са шведскай Надзеі Кандрусевіч. — Мінск: Кнігазбор.
8. Вільгельм Гаўф. Карлік Нос / Пераклад з нямецкай Уладзіміра Папковіча. — Мінск: Галіяфы.
9. Анатоль Бутэвіч. Паміж Княствам і Каронай. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда».
10. Аляксандр Краўцэвіч. Краіна пагранічча.

**Вольга Лычкова, «Акадэмкніга», Мінск:**

1. Міхаіл Валодзін. Наш старый добрый Вавилон. — Мінск: Медыял.
2. Віктар Марціновіч. Мова.
3. Васіль Быкаў. Мёртвым не баліць. Без цэнзуры.
4. Васіль Быкаў. Ліквідацыя. Без цэнзуры.
5. Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна / Укл. Наталлі Давыдзенка. — Мінск: Кнігазбор.
6. Святлана Алесіевіч. Час сэканд-хэнд.
7. Віктар Ляхор. Военная символика белорусов. Знамена и мундиры.
8. Освобождение Беларуси 1943—1944 / В. Абутураў, А. Літвін і інш. — Мінск: Беларуская навука.
9. Міхась Раманюк. Беларускія народныя строі. 2-е выданне. — Мінск: Дзяніс Раманюк.
10. Вольга Папко. Портреты князей Радзивиллов: из коллекции князя Константина Гогенлоэ-Шиллингсфюрста. — Мінск: Zimaletto.

**Алесь Мазанік, Imbryk.by і «Кніжны кірмаш»:**

1. Васіль Быкаў. Мёртвым не баліць. Без цэнзуры.
2. Васіль Быкаў. Ліквідацыя. Без цэнзуры.
3. Рыгор Барадулін. У неба пехатою.
4. Генадзь Бураўкін. Нагаварыцца з зоркамі.
5. Анатоль Грыцкевіч. Сцягі Оршы. — Мінск: Выдавец Аляксей Вараксін.
6. Анатоль Трафімчык. 1939 год і Беларусь: забытая вайна.
7. Віктар Марціновіч. Мова.
8. Аляксандр І. Бацкель. Маёнтак рыбы. — Мінск.
9. Вілейскі павет / Укл. Сяргея Макарэвіча, Дзяніса Канецкага. — Мінск: Галіяфы.
10. Севярын Квяткоўскі. Як стаць беларусам. Сто гісторый. — Мінск.

# Я адная

Каляднае апавяданне. Піша **Алесь Дамброўскі**.

Гэта першы год, калі няма ялінкі. Хаджу па хаце, сціснуўшы дрыготкімі далонямі скрынку з папяровымі гірляндамі ды шклянымі цацкамі. Няма чаго ўпрыгожваць.

Вось напаўпустая зала з аблезлымі шпалерамі, далей — хісткі ложак у непрывабнай спальні. Медны рондаль на старой пліце ля кухоннай сцяны выпускае пах вараной бульбы. Я адная ў гэтай хаце.

Я адная ў гэтай вёсцы. Лёля Скрыганава памерла чатыры месяцы таму, сабака яе — пазаўчора. Ігара Сямёнавіча дачка забрала ў сталіцу: дай Божа, каб не ў дом састарэлых. Толькі Светка з «сацыяльнай» раз на два тыдні ежу прыносіць. «Вой-вой, я толькі на хвілiначку!» — смяецца і ўцякае. А я што? Я разумею.

Больш нікога навокал, толькі дрэвы шэпчуцца. Люблю, калі не халадно, пасядзець на ганку, паразмаўляць з лесам: ён мне сваё нагаворвае, я яму — сваё. Мінулым Раствам мы з Лёляй ды Ігарам Сямёнавічам яшчэ хадзілі ў пушчу па духмяныя калючыя дрэўцы: выбіралі самыя невялічкія, каб не цяжка цягнуць было, ды сваім ходам, пешшу — кожнаму ў хату. Утраіх было лягчэй, цяпер я не тое каб ялінку з лесу, а вады з калодзежа калі-нікалі данесці не магу.

Цела. Я адчуваю сябе непатрэбным карнавальным касцюмам: забруджаным, абвіслым. Па танюткіх венках з невераготнай цяжкасцю прабіраюцца крапелькі застаялай крыві. Сэрца аддаецца ў вушах бразгучым звонам, косці храбусцяць, як сухое голле. Галава трасецца на танюткай шыі і, здаецца, вось-вось не вытрымае ды пакоціцца па падлозе непад'ёмным каменем.

Сцены. Старыя, абрыдлыя воку напаўразваленыя сцены. Яны не шкадуюць: запускаюць у хату пранізлівыя скразнякі, крадуць розум скуголеннем завірухі. Кладуся на ложак, заплюшчваю вочы — што я бачу? Нічога. Няўжо ўсе гэтыя восем дзясяткаў я пражыла дзеля таго, каб памерці ў адзіноце сярод забытых людствам хатак? Госпад, любы, ты навучыў мяне быць удзячнай лёсу, аднак адкажы, малю цебе, што я зрабіла не так, калі ты вырашыў замураваць мяне самнасам з адзінотай? Я кладу сваю пасівелую галаву ў тваё сонечныя далоні — прымай мяне...

Чую стук. Падрываюся да дзвярэй, адчыняю — нікога. Аглядваю замецены падворак і заўважаю маленькія сляды, што вядуць у лес. Ці то лясны звер вышаў на свет скрозь бязлітасную завіруху, ці то мне зноўку нешта падаецца. Доўга не думаючы, нацягваю паліто ды бацькоўскую мехавую шапку, запальваю газавую лямпу. Бульба гатуецца, значыцца, трэба хутка вяртацца, аднак хату замыкаю — ад холаду потым ніякімі сродкамі не ўратуюся.

Крок, другі, трэці, яшчэ некалькі. Аглядаюся: хатка мая зусім не вылучаецца сярод іншых, даўно закінутых. Нязграбную старую лямпу не толькі амаль не відаць праз моцную завіруху, але і занадта цяжка несці. Трымаючы яе абедзвюма рукамі, іду далей. Крочу, а вакол мяне толькі снег ды векавыя дрэвы. Час ад часу спыняюся, кладу ношу побач, папраўляю хустку — і далей, па танюсенькіх слядах.

Праз нейкі час вецер сціхае. Звярыная сцежка прыводзіць мяне на невялікую круглую палянку. Падымаю вочы і са здзіўленнем бачу прыгожую духмяную ялінaчку.

— Ах, шкада, што ты пакінула скрынку з елачнымі цацкамі ў хаце, — кажа нехта за спінай. Я спужана павяртаюся на голас, але спачатку нічога не заўважаю. Прыглядаюся яшчэ — белае пухнатае стварэнне грызе яркачырвоную моркву, з цікавасцю аглядае мяне.

— Прывітанне! — кажа заяц. — Маё імя — Аляўцін Свідрыгайлавіч.

— Вельмі прыемна, — чамусьці спакойна адказваю я. — А мяне ты, напэўна, ведаеш.

— А то!

Зайчык хавае ў снег агрызачак морквы, нетаропка падскоквае да мяне і працягвае маленькую лапку. Я стаўлю лямпу побач і асцярожна працягваю сваю руку ў адказ.

— Прабач, што ўсё так, — дадае Аляўцін Свідрыгайлавіч пасля невялічкай паўзы. — Ну, разумееш: холад, завіруха і ўсё такое. Паіншаму было нельга.

Я нічога не кажу, зайчык, чакаючы майго адказу, таксама. Потым ён ціхенька ўздыхае і сядае насупраць мяне, каля дрэўца, пачалавечы склаўшы заднія лапкі і падпёршы пярэднімі вушастую галаву.

— Ад гэтага дагістарычнага вынаходніцтва ніякага толку, — кажа ён, ківаючы на згаслую лямпу. — Толькі стамілася. Лепш бы цацкі ёлачныя захапіла.

Я не без цяжкасці сядаю насупраць і з несхаваным захапленнем аглядаю прыгажуню-ялінку. Праз хвіліну на небе з'яўляецца поўня — ялінка асвятляецца цудоўным срэбным колерам.

— Прыгожа... — зачаравана вымаўляю.

— Ага, — у тон мне адказвае Аляўцін Свідрыгайлавіч і жыццярадасна дадае: — Ну, што будзем рабіць? Цацкі ты не ўзяла... А песні спяваць любіш?

— Люблю! — не задумваючыся, кажу я з усмешкай.

— А вось гэта добра! Пачынай, я падхаплю.

— Пачынаць? — вагаюся. — А што менавіта?

— Дык што хочаш.

Я ніколі не здагадвалася, што магу так спяваць. Невыказанае, шчырае і адданае — усё, што я несла ў сваім збалелым сэрцы, выліваецца вонкі мілагучнымі хвалямі смутку і радасці, адчаю і веры, цемры і святла. Я не разумею словаў, але адчуваю ўтульнае цяпло, што разліваецца па маіх састарэлых венах. Адчуваю пяшчотныя абдымкі працавітых бацькоўскіх рук, пах скошанай летам травы.

І слёзы льюцца па гладкім дзіцячым твары.

* * *

Больш мяне ніхто ніколі не бачыў.



**Аляксандр Дамброўскі**

Нар. у 1995 у Зэльве. Вучыцца на факультэце сацыялогіі і сацыяльных навук БДУ у Мінску. Слухач Школы маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.

# Едзем на Каляды

Каляднае апавяданне. Піша **Вольга Чарнова**.

Ненавіджу, ненавіджу, ненавіджу. Ненавіджу раніцы, ненавіджу панядзелкі, ненавіджу ранішнія панядзелкі і панядзелкавыя раніцы. І як жа халодна ў пакоі, што немагчыма прымусіць сябе вылезці з-пад коўдры. Трэба неяк прасунуць законапраект, па якім узімку дазвалялася б працаваць з дому, дый тое паўдня. Хоць батарэі грэюць напаўсілы, таму і дома ніякага задавальнення не атрымліваеш. Толькі сон мне дапамагае хоць неяк перажыць гэтыя тры пякельна халодныя і мярзотныя месяцы. Ладна, трэба ўставаць і ісці на працу — грошы ж патрэбныя. Гэтыя дурацкія грошы!

На сняданак зноўку нічога няма. Я заходзіла ў краму ўвечары, але там быў такі натоўп людзей з іх бэсэнсоўнай мітуснёй і жаданнем схапіць усё, што ляжыць на паліцах, што я вырашыла: лепей застануся галоднай, чым застануся з імі ў краме. Ці мала што, можа, іх гарачка на мяне перакінецца! Вып'ю гарбаты, мне горш не стане.

Можа, і мне таксама з імі пабегаць па крамах: накупіць некалькі пачакаў маянэзу, насыпаць у яго штосьці для колеру і выдаць гэта потым за салату? Цьфу! Трэба залегчы на дно: дом-праца-дом (добра, што усяго тры працоўныя дні засталося). Прадукты замоўлю па інтэрнэце. Хаця ў мяне ёсць тры пачакі макаронаў. Якраз хопіць.

Ох ты ж! Спазняюся ўжо, мне ж яшчэ праз увесь горад шкандыляць на працу. Так, гарбата, чакай мяне ўвечары. Фарбавацца ўжо часу няма; што б тут такое адзець: джынсы/швэдар і пабегла. Каго я там на працы любіла?!

Тралейбусы, вы здзекуецеся?! Ладна яшчэ, калі ад мяне адзін сыходзіў, але ж зараз адразу пяць перад маім носам сышло. Нам неяк выкладчык ва ўніверсітэце казаў, што транспарт ходзіць па законе размеркавання Пуасона. Хуасона! Канечне, кіроўцы на дыспетчарскіх пунктах менавіта пра гэта і дамаўляюцца, каб па Пуасону хадзіць. Я іх ведаю, яны дамаўляюцца хадзіць па законе чалавечае подласці.

Нічога, я дачакаюся! Усе ў мяне дачакаюцца! О, шосты тралейбус сабраўся збягаць. Не, на яго я паспею, пабягу, але паспею. Ох, як слізка на вуліцы. Не, падслізвацца ў мае планы не ўваходзіла!

* * *

Уваходзіла, мяне проста не папярэдзілі.

Трэба ўстаць. Як быццам бы жывая. Калі б яшчэ гэтыя дзеці не рагаталі побач. Хоць ладна, няхай смяюцца. Мабыць, ім шчыра смешна, калі людзі падаюць. Якія ж гэтыя дзеці шчаслівыя! Як я сёння! Я так дзіўна і лёгка даўно сябе не адчувала. Мабыць, гэта сімптом страсення мазгоў? Ды не, там іншыя сімптомы: галаўны боль, ваніты. Дык можна сказаць, што ў мяне з раніцы было страсенне. Не, усё жыццё было страсенне, а цяпер я як быццам бы ачуняла.

Вось і тралейбус пад'ехаў на прыпынак, нават адразу шэсць. У які ж сесці? А вось сяду ў гэты, размаляваны елачкамі і снежнымі бабамі. Толькі нешта ён не туды ідзе. І ніхто не абурaецца на гэты конт. Хоць тут усяго два пасажыры: я і дзядок нейкі (адчуванне, што ён збёг з нейкага ранняга карпаратыву, у якім граў ролю Дзеда-барадзеда).

— Вы, дзяўчына, неяк занадта хвалюецеся, кожную секунду ў вокны глядзіце.

— Я проста не ўпэўнена, што тралейбус правільна едзе. Яму зноўку маршрут памянялі, так?

— Не, усё правільна. Мы едзем на свята. На Каляды мы едзем.

— Неяк вы дзіўна жартуеце.

— Я не жартую. Кожны год адзін тралейбус, размаляваны елачкамі і снежнымі бабамі, едзе на Каляды. Мы збіраем толькі тых, хто не верыць у гэта свята і не любіць яго, і робім усё магчымае, каб яны задаволіліся, каб зразумелі ўсю глыбіню, дабрыню і светлыню гэтага свята!

— І, выходзіць, я ў горадзе адна такая?

— Не, не адна. У цябе проста самы цяжкі выпадак, таму мы цябе так загадзя падабралі — за тры дні!

— І што мы будзем рабіць усе гэтыя дні?

— О, у нас тут цэлая праграма арганізаваная! Усё падлічана да дробязяў, пасля такога ты дакладна ўсёй душой зразумееш гэтае свята: па-першае, мы паедзем у самы папулярны супермаркет і будзем там пхацца каля зніжкавых палічак; па-другое, мы будзем паўдня рэзаць прадукты і заліваць іх маянэзам, а потым будзем трэніравацца імі аб'ядацца. Праўда, цудоўна? Віця, уключай музыку, — крыкнуў ён кіроўцу. — А то мы тут зусім занудзімся. Уключай маю любімую калядную!

Тралейбус шпарка кіраваўся да найбліжэйшага супермаркета, а з кабіны кіроўцы і з вуснаў дзяўчыны вырывалася песня...

За мхом, за мхом і балотцам
Ох, каляда ты мая, каляда!
Зялёная жабка кросны ткала,
Прыйшоў да яе рачок:

— Бог помач табе, зялёная жабка.
— Дзякую табе, чорны рачок.
— А ў цябе, жабка, нітачкі рвуцца?
— А ў цябе, рачок, вусікі дзьмуцца?
— А ў цябе, жабка, лапкі кароткі.

— А ў цябе, рачок, вочкі не бачаць.
— А цябе, жабка, калясом сатруць.
— А цябе, рачок, паны з'ядуць.
На талерачках,
на відэльцах разнясуць.



**Вольга Чарнова**

Нар. у 1991 у Мінску. Скончыла БДУ па спецыяльнасці «бізнэс-адміністраванне», працуе ў сферы маркетынгу. Слухач Школы маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Выйшаў на волю палітвязень Эдуард Лобаў. Ён правёў за кратамі роўна чатыры гады. Яму тройчы прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні, але Эдуард кожны раз адмаўляўся. Затрымалі Лобава і Дашкевіча за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за збіццё невядомых. На судзе праваабаронцы палічылі, што гэта была спланаваная правакацыя.



Героямі ўкраінскага інтэрнэту сталі на гэтым тыдні кацяняты, падабраныя ўкраінскімі марскімі пехацінцамі ў зоне баявых дзеянняў на ўсходзе Украіны. Марпехі назвалі малых Градам і Ураганам — у гонар аднайменных ракетных сістэм залпавага агню.




Беларус Аляксандр Касцюкевіч пераехаў з Мінска ў Камбоджу і адкрыў там папулярны фітнэс-клуб. Гісторыю жыцця Аляксандра Касцюкевіча чытайце на сайце nn.by.



Вялебная Лібі Лэйн была прызначаная першай жанчынай-біскупам у англіканскай царкве ўсяго праз месяц пасля гістарычнай змены кананічнага права.



## Анекдоты і жарты

* * *

Дзмітрый Кісялёў у жывым эфіры: «Цана даляра пастаянна мяняецца. Даляр — самая нестабільная валюта свету».

* * *

Як паведаміў Нацбанк, курс даляра з заўтрашняга дня складзе 5 тысяч рублёў. Праўда, пры куплі валюты будзе брацца 350% камісіі.

* * *

Расійскі рубель знізіўся на беларускага зайца і сказаў: «А цяпер пабеглі!».

* * *

— Калі адменяць 30% збор?
— Калі ўвядуць 50%.

* * *

За вячэрай дачка абвясціла, што напісала ліст Дзеду Марозу.

Сказала, што сабе папрасіла камп'ютар, а маме — норкавую шубу...

Дзед Мароз папярхнуўся чаем.

* * *

Кожны раз, калі ты адмаўляеш у спатканні добраму хлопцу, дзесьці ў свеце нараджаецца кацяня, якое будзе жыць у цябе пасля сарака гадоў.

## Шаноўныя чытачы! Наступны нумар «Нашай Нівы» выйдзе 7 студзеня 2015. Вясёлых Калядаў і шчаслівага Новага года!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Карова каня з'ела.** У засценку Перакорка Вілейскага павета аднаму тутэйшаму гаспадару здарылася няшчасце праз малы ці ўжо надта вялікі розум. Узяўшы за каня, забранага пад вайну, каля двухсот рублёў ды далажыўшы яшчэ колькі рублёў дамашніх, ён схаваў усё гэта, звязанае ў вузялок, у ложка. Праз некалькі дзён жонка выкінула салому з ложка ў хлеў, дзе стаяла карова, а з саломай — і грошы. Карова любіла есці тканіну, дык і з'ела тую анучыну з папяровымі грашыма.

**«НН». №51—52. 1914.**

**Чалавек года — Жанна Літвіна.** Беларуская асацыяцыя журналістаў, што адчайна змагаецца за выжыванне незалежных СМІ, сёння пераўтварылася ў сапраўднае Міністэрства інфармацыі, якое служыць свабодзе слова. А яго міністарка (слова «міністр» на лаціне, дарэчы, першапачаткова азначала «служыцель») — Жанна Літвіна.

**«НН». №48. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7005. Газета выдаецца 48 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 23.12.2014.

Замова №4961.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 14048